PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 6 (1969) ГОД XXXIX БЕЛАСТОК 6 ЛЮТАГА 1994 г. ЦАНА 4000 зл.

## ШКОЛА І ВЁСКА

18 студзеня г.г. еду з Беластока ў Крывец, што на Гайнаўшчыне. Пасля гадзіннага падарожжа выходжу на прыпынку, які невядома чаму, называецца „Kutowa”.

Да Кутавой адсюль 2 км, а да Крыўца — кіламетр. Разам са мной ідуць дзве настаўніцы, якія даязджаюць у школу з недалёкай Нарвы. Па дарозе размаўляем аб школе.



*Наймалодшыя вучні ўжо не могуць дачакацца свята.*

### Школа ў Крыўцы

знаходзіцца ў распараджэнні ўправы гміны ў Нарве. Настаўнікі хваляць змену сваёй прыналежнасці.

— Няма ў нас такіх праблем, як у куратарыйных школах. Усе нашы патрэбы войт Тапалянскі вырашае станоўча. Няма клопатаў з ацяпленнем будынка. Калі спатрэбілася нам 30 мільёнаў на арганізацыйныя справы, гміна іх не пашкадавала, — кажуць настаўнікі.

Прыемна мне было пазнаёміцца з настаўніцай беларускай мовы.

### Надзея Міхальчук

працуе ў асвеце 25 гадоў. Па прафесіі яна русістка, беларускую мову ведае з гайнаўскага ліцэя і курсаў у Беларусі. Навучае гэтага прадмета ўжо 10 гадоў. Апрача беларускай мовы выкладае геаграфію. Настаўніца вядзе таксама пазаўрочны гурток беларускай мовы. Калі я радасна ўзрушылася такім рэдкім выпадкам, высветлілася, што ў Крыўцы, арганізуючы гэты гурток

### скарацілі гадзіны навучання

беларускай мовы.

— Ustaliliśmy z wójtem, że zmniejszymy ilość godzin z 3 na 2. Były skargi ze strony rodziców, że jest za dużo godzin. Dla osób najbardziej chętnych będą zajęcia pozalekcyjne. Argument był taki — uatrakcyjnienie, a nie przeładowanie zajęć, — паясняе дырэктар школы Войцех Карчэўскі.

— Каб была магчымасць скараціць матэматыку ці польскую мову, то бацькі бы толькі „klasnęli w dłonie”, — дадае прысутная настаўніца.

— A że ten białoruski jest nieobowiązkowy, to go można uszczypnąć, — сцвярджае настаўніца беларускай мовы.

— Uczą się trzech pokrewnych języków: polski, białoruski i rosyjski; zdarza się, że im to się myli, — гаворыць дырэктар.

У Крыўцы вучацца дзеткі з такіх вёсак як Прыбудкі, Падбаравіска, Крыніца, Храбустоўка. Усяго 62 вучні (разам з шасцігодкамі).



*Эва Зіневіч і Гражына Ахрымюк вядуць школьны навагодні баль.*

### 34 вучні ходзяць на беларускую мову.

— Не вучацца наогул слабейшыя школьнікі, якім быццам мяшае яна ў вывучэнні польскай ці рускай моў. Раней вучыліся ўсе, 4 гадзіны ў тыдзень, і аб гэтым не гаварылася. Пачалося недзе чатыры гады таму, калі адзін з бацькоў заявіў, што добра было б навучаць і ў нас заходнія мовы. У далейшай адукацыі (бо ў 100% вучні паступаюць у сярэднія школы) руская і беларуская мовы не выкарыстоўваюцца, — тлумачыць настаўніца Надзея Міхальчук.

Людзі хацелі, каб іх дзеткі вучыліся англійскай ці нямецкай мовы.

— Я хацеў арганізаваць заняткі па англійскай мове (за невялікую аплату), наладзіў кантакт з адным з фондаў у Беластоку. Трэба толькі знайсці 20 ахвотнікаў. На жаль, столькі не падпісалася. Каб прыняць на працу настаўніка заходняй мовы, трэба дадатковы штат, а яго няма, — кажа дырэктар.

У школе працуюць

### спецыялісты:

магістр рускай мовы, гісторыі (дырэктар), тэхнік і чатыры настаўнікі ад пачатковага навучання (два ў ходзе спецыялізацыі). Настаўнікі між сабою размаўляюць па-польску. Беларуская мова выкарыстоўваецца толькі на ўроках гэтага прадмета.

— Калі гавару з дзецьмі на дыялекце, дык яны гэта ўспрымаюць як жарт. Літаратурнай мовы ў пачатковых школах вельмі цяжка навучыцца. Трэба таксама ставіць добрыя ацэнкі. І што тут гаварыць пра беларускую мову, калі дзеткі ўцякаюць нават з нашай праваслаўнай рэлігіі, — гаворыць настаўніца.

Праваслаўную рэлігію выкладае свяатар Яўген Касакоўскі (6 дзетак-католікаў рэлігіі не вучацца).

— Religia jest prowadzona po polsku, bo batiuszce jest łatwiej wytłumaczyć, a dzieciom zrozumieć, — паясняе дырэктар Войцех Карчэўскі, і дадае: — A modlitwy są przecież w oryginale.

### На прыпынку

сустракаюся з вучнямі. Усе гавораць толькі па-польску. Не смешыць іх таксама мая мова. Старэйшыя хлопцы стараюцца падкрэсліць сваю важнасць — між сабой тэатральна спрачаюцца. Гаворым пра „Зорку” і беларускую мову. Вучні запрашаюць мяне на ёлку.

Давялося мне таксама пабыць на ўроку геаграфіі ў V і VI класах. Спадарыня Надзея Міхальчук прадставіла мне сваіх выхаванкаў і паказала сваю залу. На сценах беларускія матывы — насценгазета на тэму аховы прыроды. Таксама ў класе партрэты беларускіх класікаў, а сярод іх заблытаўся і Аляксандр Сяргеевіч Пушкін.

Нягледзячы на ўсе ўспомненыя цяжкасці, пані Надзея Міхальчук мае свае

### дыдактычныя дасягненні.

Вучаніца Гражына Ахрымюк заняла трэцяе месца ў раённых элімінацыях дэкламатарскага конкурсу. На гурток беларускай мовы добраахвотна ходзяць 16 вучняў. Разам падрыхтавалі п'есу „Хатні эксперымент”, якую пакажуць на школьнай ёлцы.

☞ *Працяг на стар. 3*

## МУЗЕЙ І ШТО ДАЛЕЙ

Расказвае КАНСТАНЦІН МАЙСЕНЯ

Дыскусія над беларускім музеем пачалася разам з заснаваннем Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Цягнулася яна гадоў дзесяць — асаблівы націск на патрэбу такога музея ставілі беларускія дзеячы з Бельска-Падляшскага. Неяк у першай палове 60-х гадоў на адзін з пленумаў Галоўнага праўлення БГКТ прыехаў прадстаўнік Цэнтральнага камітэта ПАРП. *Mili Białorusini,* — сказаў ён, — *jeżeli chcecie mieć muzeum, to najpierw trzeba zdobyć eksponaty.* На гэтым жа пленуме выступіў яшчэ Канстанцін Майсеня, які ў той час працаваў у Павятовым саюзе гмінных кааператываў ды меў у сваім распараджэнні гэсаўскія памяшканні. Запрапанаваў ён, каб ужо пачаць збіраць экспанаты — месцам часовага іх складу стаў ГС у Нараўцы. У той час Саюз гмінных кааператываў будаваў у Белавежы новыя крамы — думка была такая, каб размясціць музей у старых гэсаўскіх будынках. Неўзабаве так яно і сталася, не без цяжкасцяў, аднак. Нараўчанскія людзі неахвотна расставаліся з экспанатамі, лічылі, што музей павінен быць у Нараўцы менавіта. Давялося склікаць пасяджэнне Саюза гмінных кааператываў і старшыняў ГСаў — пасяджэнне прыняло рашэнне аб перавозе экспанатаў у Белавежу ды фінансавай падтрымцы для музея; ішло тут пра арэнду будынка. У белавежскім музеі знайшлося прыблізна паўтары тысячы унікальных экспанатаў, ахвяраваных жыхарамі паўднёва-ўсходняй Беласточчыны. Музей існаваў да паловы 70-х гадоў. Наведала яго звыш 30-ці тысяч турыстаў з Польшчы і замежжа.

Канец белавежскага музея ў той жа меры сумны, што і таямнічы. Старшыня Грамадскага камітэта пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы Канстанцін Майсеня тлумачыць гэта націскамі тадышніх улад — яны тлумачылі нам, што будынак неадпаведны, цеснаваты ды драўляны. Пачаліся пошукі новага будынка — аднак ніводная з прапаноў (беларускія дзеячы падшукалі два памяшканні ў той жа Белавежы, была таксама думка пра Беласток) не атрымала падтрымкі. Калі К. Майсеня адышоў з Павятовага саюза гмінных кааператываў, спынілася фінансаванне музея. Каля 1350 экспанатаў раз'ехаліся па краіне — частка трапіла ў Прыродазнаўчы музей у Белавежы, частка ў беластоцкія музеі, а найбольш — у Музей сельскай гаспадаркі і вёскі ў Цеханоўцы. Тады завязаўся першы камітэт пабудовы — яго старшынёю (ганаровым) стаў старшыня Ваяводскай рады нарадовай (WRN). Камітэт гэты аднак нічога не дабіўся і сканаў уласнай смерцю.

Справа пабудовы канкрэтызавалася толькі ў чэрвені 1983 года. Гайнаўскі тартак, выбудаваўшы сабе новую „базу”, пакінуў пляц з трыма аб'ектамі. Не было думкі, як загаспадарыць гэтую прастору — спачатку мелі там пасяліцца пажарнікі, думалася таксама пра фабрыку цвікоў. 29 чэрвеня 1983 г. начальнік горада Гайнаўкі Станіслаў Кастэра перадаў пляц з усёй маёмасцю на ўласнасць Беларускаму грамадска-культурнаму таварыству, ад імя якога выступаў Канстанцін Майсеня (тады сакратар Галоўнага праўлення).

☞ *Працяг на стар. 8*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Tuż po wizycie Jana Pawła II w krajach bałtyckich rozmawiałem długo z Ratzingerem (ideologiem Watykanu) i zapytałem go, co sądzi o tym, że papież w przemówieniu wygłoszonym w Estonii dostrzegł w marksizmie jądro prawdy. Ratzinger uśmiechnął się i mruknął: on zawsze tak uważał.*

*(Polityka, nr 3)*

*Kardynał Agostino Casaroli żałuje, że realny socjalizm nie był w stanie się zreformować. Komunizm — według kardynała — było to coś jedynego, wyjątkowego w historii politycznej świata. Był to chyba jedyny system, który świadomie dążył do połączenia wielkich zasad z ich konkretnymi konsekwencjami.*

*(Forum, nr 3)*

Усяго можна было б спадзявацца, але таго, што ватыканскія ўлады будуць хваліць камунізм — ні ў якім выпадку!

* * *

***Мы не политики, мы церковныя люди. Мы только молимся, чтобы Господь вразумил правителей, чтобы дал вразумение всем.***

***— Наша земля — Россия, в точном смысле слова. Ибо россиянами должны быть и белорусы и украинцы. То есть все словянские народы. Вот это и есть Россия со всеми другими народами её населяющими,*** — сказаў архіепіскап Магілёўскі і Мсціслаўскі Максім.

***(Вестник Могилёва, 29.04.1993 г.)***

Уладыка Максім прыехаў аж з Омска, каб бараніць беларускі народ ад беларускай мовы, культуры і свядомасці. „Россия остаётся Россией святой" — закончыў уладыка.

* * *

*Parlament Białorusi tygodniami dyskutował o korupcji. Żona Stanisława Szuszkiewicza kupiła po znajomości importowany sedes, wicepremier załatwił podłączenie gazociągu do własnej daczy. Deputowani obrzucali się tak długo błotem, aż w końcu w całej republice zabrakło jednego uczciwego polityka. Tymczasem gdy ruska telewizja nadawała wystąpienie Żyrynowskiego, pół Białorusi siedziało przed odbiornikami. Och, nam by takiego przywódcę — wzdychały kobiety.*

*(Nie, nr 3)*

**Калі ў 20-х гадах Беніта Мусаліні, лідэр італьянскіх фашыстаў, выступаў перад шматтысячным натоўпам, італьянкі таксама аж млелі ад узбуджэння і захаплення вобразам і голасам „дучэ". Прыгажосць і каларытнасць Жырыноўскага не горшыя, чым Беніта Мусаліні.**

* * *

*W 1993 r. przeciętny Polak zarobił 51 mln 700 tys. brutto, z czego państwu oddał 22,5 mln. Zostało mu miesięcznie 2,4 mln. Ale to nie wszystko. Od płacy każdego zatrudnionego zakład pracy musiał odprowadzić 24 mln. na ZUS i Fundusz Pracy, co daje astronomiczną sumę 46,7 mln. zł. rocznie. W rzeczywistości podatek pracownika wynosi zatem 40% dochodów a razem z ZUS-em około 90%. Każdy płaci także podatki ukryte w cenie towarów. Na przykład w cenie benzyny 61% stanowią podatki i cła.*

*(Miliarder, nr 2)*

* * *

*W sejmowej bibliotece parlamentarzyści poprzedniej kadencji najczęściej wypożyczali dzieło Marzeny Domaros vel Anastazji P. „Erotyczne immunitety".*

*(Polityka, nr 3)*

**Прыдалася б і гэтаму Сейму нейкая Анастазія, бо смяротная нуда, якая выцякае з Вялікай Палаты, выкліча запатрабаванне на новыя выбары.**

* * *

*Przedstawiciele Kościoła nie zapoznawali się z ekspertyzami opracowanymi przez doradców strony rządowej w sprawie konkordatu. Kwestionowali zasadność ich tworzenia.*

*— Przecież w konkordacie są odnośniki mówiące o konieczności zmiany prawa państwowego — stwierdzali.*

*(Rzeczpospolita, nr 4)*

* * *

*Białorusini nigdy nie mordowali Polaków. Polacy nie umieją się z tym rozliczyć. Trzeba pamiętać, że mamy do czynienia z kompleksem w kompleksie. Białoruski kompleks polega na tym, że jest to naród mały, chłopski, przez długi czas bez własnej państwowości. Jest też kompleks Polaków — narodu pokrzywdzonego, niszczonego, rozbieranego. To powoduje, że mówienie Polakom, że komuś zrobili krzywdę jest bardzo trudne i prawie przez nich nieprzyswajalne.* **— сказаў Яцэк Курань.**

*(Dyskusja, nr 5)*

* * *

*To nasza polska specjalność — ludzie, których zawodem wyuczonym jest inżynier czy aktor, a zawodem wykonywanym — autorytet moralny.*

*(Polityka, nr 2)*

* * *

*Panu Władimirowi Żyrinowskiemu humor zmienia się kilka razy dziennie, więc z rana oddaje niektóre nasze ziemie Niemcom, około południa część naszego państwa pragnąłby zatrzymać przy Rosji i dlatego proponuje kolejny rozbiór, jednak już pod wieczór Żyrinowski razem z nami rusza na podbój Niemiec. Trzeba przyznać, że są dni, kiedy Rosjanin twierdzi, że jesteśmy krajem suwerennym i daje nam spokój.*

*(Gazeta Współczesna, nr 10)*

* * *

*Kto nie spełnia żądań Rosji, jest jej wrogiem, kto Rosji ustępuje, od tego Rosja żąda coraz więcej.*

*(Prawo i Życie, nr 1-2)*

* * *

*Ludzie w 1989 r. głosowali tak, jak im Kościół kazał, rozczarowali się, bo okazało się, że połowa biskupów to Żydzi,* — **сказаў пасол Яцэк Соска з ПСЛ.**

*(Gazeta Wyborcza, nr 3)*

* * *

*Kościół liczy dziś na PSL.*

*(Rzeczpospolita, nr 2)*

* * *

*Uzdrowiciel z Rosji stosował w Krakowie akupunkturę. Po wbiciu igieł informował pacjenta, że wyjmie za dodatkową opłatą. Polacy płacili, bo lubią medycynę niekonwencjonalną.*

*(Kurier Poranny, nr 251/1993)*

# З мінулага тыдня

**У Бельведэры** 24 студзеня г.г. адбылася ўрачыстасць прысваення ступені прафесара настаўнікам вышэйшых навучальных устаноў і працаўнікам навукі і мастацтва. Сярод 107 асоб, якім прэзідэнт РП уручыў акт прысваення звання прафесара, апынуўся **Уладзімір Паўлючук** з Ягелонскага універсітэта ў Кракаве. Малодшым чытачам нагадаем, што праф. У. Паўлючук у 1963—1971 гадах працаваў журналістам у нашым тыднёвіку. Сардэчна віншуем!

**Партнёрства дзеля міру** — гэта для Польшчы не заахвочвальная прэмія і не пусты жэст, але сур'ёзная прапанова, якая павінна прывесці яе да паўнапраўнага членства ў еўрапейскіх структурах бяспекі, — заявіў у Празе міністр нацыянальнай абароны РП **Пётр Каладзейчык** пасля перамоваў з чэшскім міністрам абароны **Антанінам Баўдышам.**

**Прабываючы з візітам у Парыжы** віцэ-міністр замежных спраў РБ **Аляксандр Сычоў** выказаў зацікаўленасць Беларусі супрацоўніцтвам з Заходнееўрапейскай Супольнасцю. Госць сустрэўся з шэфам Камісіі абароны Парламенцкай асамблеі ЗЕС **Жакам Бамелам.** У выдадзеным камюніке, было падкрэслена, што гэта першая афіцыйная сустрэча прадстаўнікоў Беларусі і ЗЕС. Беларускі міністр сказаў, што да канца 1996 г. на тэрыторыі РБ атамнай зброі ўжо не будзе.

**Амаль 2 тысячы расейскіх камуністаў** і нацыяналістаў сустрэліся ля Павелецкага вакзала ў Маскве, каб ушанаваць 70 гадавіну смерці правадыра бальшавіцкай рэвалюцыі Уладзіміра Ільіча Леніна. Месца дэманстрацыі было падабрана адмыслова. 22 студзеня 1924 г. спецыяльны цягнік прывёз сюды цела правадыра рэвалюцыі, які дзень раней памёр у падмаскоўскай мясцовасці Горкі. Аратары падчас мітынгу заяўлялі, што „чырвоны сцяг неўзабаве залунае не толькі над Расеяй, але над усім светам". Зняважлівыя воклічы ў адрас „прастытутак з Крамля, якія вядуць край да руіны" ўспрымаліся апладысментамі. Пры нагодзе быў праведзены збор грошай на камуністычны друк і на „ахвяры злачыннага рэжыму Ельцына". Пасля мітынгу каля 200 дэманстрантаў падаліся на Чырвоны пляц, каб несці ганаровую варту ля Маўзалея Леніна.

**У Глазга** (Вялікабрытанія) адбылася канферэнцыя **Здаровых еўрапейскіх гарадоў**. Польшчу прадстаўлялі дэлегацыі Лодзі, Торуня, Познані і **Беластока**. Мэта канферэнцыі — абмеркаванне праекта дзейнасці сеткі здаровых гарадоў Еўропы на наступную пяцігодку. **Фонд „Беласток — здаровы горад"** звярнуўся з афертай супрацоўніцтва, між іншым, з гарадамі Глазга і Іерусалім. Беластоцкай дэдегацыяй была дадзена прапанова, каб чарговую вясеннюю канферэнцыю экалагічных гарадоў правесці ў Беластоку.

**Калегія беластоцкага ваяводы** разглядала пытанне стану дарог і інфраструктуры на гранічных пераходах. У ходзе абмяркоўкі выявілася, што на ўтрыманне і мадэрнізацыю дарожных шляхоў патрэба амаль 500 млрд. зл., калі ў сёлетнім бюджэце на гэтую мэту прадугледжана толькі 25 млрд. Калегія адобрыла план перанясення аўтамабільных чэргаў, якія чакаюць мытнага і гранічнага кантролю на КПП Кузніца-Беластоцкая па-за тэрыторыю гэтай мясцовасці.

**У Белавежы** адбылася сустрэча членаў і сімпатыкаў рэгіянальных таварыстваў Падляшша. Сярод дакладчыкаў былі вядомыя навукоўцы і дзеячы культуры з Беластока, Седльцаў, Мендзыжэца, Сакалова, Белай-Падляшскай, Сямяціч і Бранска. Арганізатарам сустрэчы, якая праходзіла пад лозунгам „Падляшскі рэгіяналізм", была Краёвая рада рэгіянальных таварыстваў культуры.

**Пачалася ліквідацыя Кааператыўнага банка ў Кузніцы-Беластоцкай.** Яго актывы і пасівы пераняў Першы камерцыйны банк у Любліне, ратуючы ў такі спосаб калектыў банка ад беспрацоўя. Нягледзячы на ліквідацыю, усе банкаўскія аперацыі праводзяцца без перашкод. У Беластоцкім і Ломжынскім ваяводствах працуе 76 кааператыўных банкаў. На думку дырэктара Акруговага аддзела Нацыянальнага польскага банка ў Беластоку **Эдуарда Дэрэцкага,** толькі на Беласточчыне звыш дзесяці банкаў апынуліся ў цяжкой фінансавай сітуацыі. Пасля падвядзення гадавога балансу выраіпацца перспектывы далейшай іх дзейнасці.

# ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- Амаль усё пра гміну Чаромха.
- Ахова помнікаў царкоўнага мастацтва на Беласточчыне.
- Перастаньце піць гарэлку, — заклікае Аляксандр Барташэвіч.
- Непатрэбны нам чарговыя грамадзянскія войны, — заяўляе пасол Даброньскі.



# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

## Страсці вакол „літоўскай справы"

Апошнім часам Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь спрачаецца ў справе арышту і дэпартацыі былых кіраўнікоў кампартыі Літвы Н. Буракявічуса і Ю. Ермалавічуса, якіх у Вільні абвінавачваюць у крывавых студзеньскіх падзеях 1991 года. У сувязі з тым, што акцыя была праведзена ў Менску літоўскімі спецслужбамі, расцэньваецца яна як акт міжнароднага бандытызму і беззаконня. Парламенцкая камісія па нацыянальнай бяспецы, абароне і барацьбе са злачыннасцю вынесла на разгляд прапанову аб адстаўцы міністра ўнутраных спраў Уладзіміра Ягорава і старшыні Камітэта дзяржаўнай бяспекі Эдуарда Шыркоўскага. Народны дэпутат Аляксандр Лукашэнка палічыў неабходным вызваліць ад займаемых пасад яшчэ старшыню ВС Станіслава Шушкевіча, прэм'ер-міністра Вячаслава Кебіча і генеральнага пракурора Васіля Шаладонава. Найбольш канструктыўнай была прапанова апазіцыі прыняць інфармацыю кіраўнікоў сілавых міністэрстваў да ведама і абавязаць адпаведныя ведамствы распрацаваць працэдуру дзейнасці дзяржаўных і праваахоўных органаў у аналагічнай сітуацыі. Пасля трохдзённых закрытых пасяджэнняў народныя абраннікі так і нічога не вырашылі і нікога не вызвалілі. Урэшце, з браку кворуму і з увагі на выхадныя, дэбаты на гэтую тэму былі часова спынены.

Рашэнне аб адстаўцы было прынята толькі на чацвёрты дзень — у аўторак, 25 студзеня г.г. Дэпутаты прагаласавалі за адстаўку міністра Уладзіміра Ягорава і шэфа КДБ Эдуарда Шыркоўскага.

## Адстаўка Станіслава Шушкевіча

Кульмінацыяй палітычнага процістаяння ў Вярхоўным Савеце стала галасаванне над вотумам недаверу для кіраўнікоў парламента і ўрада, праведзенае 26 студзеня г.г. Прэм'ер-міністру Вячаславу Кебічу ставіўся закід бяздзейнасці ў барацьбе з карупцыяй і адсутнасць кантролю над органамі, адказнымі за парадак і бяспеку. Старшыню ВС Станіслава Шушкевіча — прыхільніка дэмакратыі і рыначнай эканомікі — абвінавацілі ў карупцыі (быццам бы ён карыстаўся паслугамі будаўнічых фірмаў па заніжаных цэнах). Парламенцкую пракамуністычную большасць зусім не цікавілі тлумачэнні спікера, бо, як сказаў дэпутат ад апазіцыі Сяргей Навумчык, „повадам для зняцця Шушкевіча мог бы паслужыць нават колер ягонага гальштука". У выніку тайнага галасавання за адкліканнем з пасады С. Шушкевіча выказалася 209 дэпутатаў, супраць — 36, а за вызваленнем ад займаемай пасады В. Кебіча галасаваў 101 дэпутат, супраць — 175. Такім чынам С. Шушкевіч адкліканы з пасады старшыні ВС, а В. Кебіч застаўся на сваёй пасадзе. Пасля аб'яўлення вынікаў выступіў лідэр БНФ Зянон Пазьняк, які павіншаваў дэпутатаў з „паўзучым камуністычным пераваротам".

## ЗША ёсць і будзе з Беларуссю

Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол ЗША ў Беларусі Дэвід Суорц выступіў перад студэнтамі Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта. Гаворачы аб перспектывах аднаўлення эканомікі Беларусі і будучага дабрабыту ён спаслаўся на прыклад Польшчы, якая правяла фундаментальныя рэформы, а таксама Швейцарыі, якая з'яўляецца квітнеючай дзяржавай, не валодаючы ўласнымі рэсурсамі. Амерыканскі пасол у сваім выступленні перад студэнтамі заявіў таксама, што ЗША ёсць і будзе з Беларуссю.

Дэвід Суорц днямі закончыў сваю дыпламатычную місію ў Менску і вярнуўся ў Вашынгтон.

## Перакоўваюць мячы на аралы

На Барысаўскім танкарамонтным заводзе пачаўся чарговы этап ліквідацыі браніраванай баявой тэхнікі. Беларусь знішчае яе ў адпаведнасці з дагаворам па звычайных узброеных сілах у Еўропе. Да 24 лютага г.г. будуць разрэзаны на метал або пераабсталяваны пад машыны народнагаспадарчага прызначэння 90 танкаў і 50 баявых машын пяхоты. Кантроль за ліквідацыяй баявой тэхнікі ажыццяўляецца прадстаўнікамі НАТО.

## Шэляговіч мэрам?

Лідэр згуртавання „Палісье" Мікола Шэляговіч, які неаднаразова заяўляў аб намеры дамагацца аўтаноміі гэтак званага „яцвяжскага рэгіёна", паведаміў, што ў будучым выставіць сваю кандыдатуру на пасаду мэра Пінска — горада, які ён уважае цэнтрам „яцвяжскага краю".

## Кватэры на продаж

Арыгінальнае, як на мясцовыя варункі, рашэнне, накіраванае на папаўненне мясцовага бюджэту, прыняў Пінскі гарвыканкам. Ён выставіў на продаж адразу 27 кватэр у новым доме. Пры гэтым цэны аказаліся проста касмічнымі. Напрыклад, аднапакаёвая кватэра была цэнена ў 19 мільёнаў рублёў. За трохпакаёвую выканкам прасіў усе 44 млн. рублёў. Тым не менш багаценькіх прэтэндэнтаў набралася столькі, што цяпер улады вымушаны выбіраць з іх тых, хто вельмі доўга стаіць у чарзе на атрыманне жылля. Прыгадаем, што сярэдняя зарплата ў Беларусі складае 160 тысяч, а мінімальныя — 30 тысяч рублёў.

**(вл)**

# ВЁСКА І ШКОЛА

☛ Працяг са стар. 1

Калі пакідаю школу, іду яшчэ і на вёску. Спыняюся

### ў магазіне,

дзе многа народу чакае дастаўкі хлеба. Прадаўшчыцу, Галіну Макарэвіч, заступае муж.

— Няма тут сапраўднага гандлю, бо людзі небагатыя. От, сяк-так таргуем, — кажа Васіль Макарэвіч.

Магазін належыць ГСу.

Пытаюся сялян, як ім тут жывецца.

— Горш то нэ будэ, — кажа адзін дзед і дадае, што ён „уважае сацыялізм".

Гутару таксама з вяскоўцамі пра іх адносіны да мовы. Пытаюся, ці дзеці павінны вучыцца беларускай мове.

— А пэўно што трэба! Як то, коб нашого православного языка нэ учылись, — кажуць усе аднагалосна.

Калі гавару, што палова дзяцей ужо не вучыцца і што скарацілі гадзіны навучання, сяляне здзіўляюцца. Прадавец таксама ўключаецца ў тэму і дадае:

— Нікоторы говорат, што сяя мова то мішаецце з пульскою.

### Солтыс Валянціна Ракоўская

жыве ў канцы вёскі.

— У вёсцы цяжка нешта арганізаваць, бо тут многа пенсіянераў, а яны не жадаюць ужо змен у жыцці. У Крыўцы некаторыя хочуць праклясці водаправод. На гэта, аднак, не ўсім хапае грошай. Цяпер жывецца цяжка, — кажа солтыс.

### Крывец

налічвае 84 хаты. Больш чым палову вёскі складаюць пенсіянеры. Маладых гаспадароў толькі сем чалавек. Многа ў вёсцы такіх, якія „дажываюць да пенсіі". Найбольшай цяжкасцю для сялян з'яўляюцца пенсійныя ўзносы.

— Падаткі не так цяжка заплаціць як гэтыя „складкі", — скардзяцца сяляне.

Багатых земляробаў тут няма. Пераважаюць невялікія гаспадаркі ў сем, восем гектараў. У Крыўцы да нядаўна была сельскагаспадарчая прадукцыйная спулдзельня.

— Цяпер нашу спулдзельню пераняла Макаўка. Тут добрыя землі (IV клас) і палі пакуль што яшчэ засеяны. У спулдзельні працуе 7 сем'яў. Многа „калхознікаў" ужо на пенсіі, — інфармуе солтыс Валянціна Ракоўская.

Найбольш папулярнае прозвішча ў Крыўцы — Кавальскі. Едучы ў Крывец, я мела надзею сустрэцца са славутым дуэтам — братамі Кавальскімі. На жаль, яны ўжо сталі жыхарамі гарадоў і нашая сустрэча не адбылася. Гэтыя хлопцы вельмі сімпатычна прэзэнтуюцца ў беларускіх радыёперадачах і расслаўляюць сваю вёску. У вёсцы гавораць аб іх з гордасцю і пашанай.

— Калісь быў клуб і там арганізаваліся вясковыя мерапрыемствы. А цяпер гэтым будынкам ніхто не займаецца, бо няма штатнага працаўніка. Час ад часу моладзь арганізуе дыскатэкі і гэта ўсё. Святліцу жыхары вёскі пабудавалі грамадскімі намаганнямі. Цяпер такі час, што культура людзей ужо не цікавіць. Абы да пенсіі, а далей — да смерці, — гаворыць солтыс.

Пытаюся я таксама ў спадарыні Валянціны Ракоўскай, што яна думае аб скарачэнні гадзін навучання беларускай мовы.

— Ой, то не найлепшы выхад. Мне здаецца, што беларускай мовы трэба ўсім нам вучыцца.

**ГАННА КАНДРАЦЮК**
**Фота Міры Лукшы**

**P.S.** Калі хацела я наведаць урок беларускай мовы, настаўніца была заклапочаная, але шчыра мне падказала:

— Я не ведаю, ці вам можна на ўрок. Справа ў тым, што на з'ездзе настаўнікаў у Бельску гаварылася, каб не прымаць беларускіх журналістаў, бо „адна пані з Варшавы вельмі дрэнна напісала пра нашую адну школу".

— Сапраўды думаеце, што пра адну?..

**Г. К.**




**Добры дзень, шаноўныя сябры!**

Мяне завуць Сяржук, мне 21 год, я вучуся на чацвёртым курсе Барысаўскага політэхнікума на факультэце апрацоўкі матэрыялаў на станках і аўтаматычных лініях па спецыяльнасці тэхнік-тэхнолаг. Я з'яўляюся таксама няштатным карэспандэнтам газеты „Барысаўскія навіны". Пасля заканчэння тэхнікума думаю паступаць вучыцца ў Беларускі дзяржаўны універсітэт на факультэт журналістыкі.

Наш цяжкі час прымусіў мяне займацца палітыкай і я ўступіў у рады Беларускага народнага фронту „Адраджэнне", быў дэлегатам III з'езда БНФ.

У вольны час я люблю слухаць музыку, чытаць газеты, глядзець цікавыя фільмы і перадачы.

Я вельмі хачу знайсці сяброў сярод беларусаў Польшчы з падобнымі інатрэсамі.

Мой адрас: 222120, Беларусь,
г. Барысаў,
Менская вобласць,
праспект Рэвалюцыі,
дом 29, кв. 49
Сяржук Іваннікаў

# ЛЕДЗЬ ВЫЦЯГНУЎ

Гэтую гісторыю падслухаў я калісьці ў суседа майго бацькі. Бывала, сыдуцца людзі на „вечаркі" і расказваюць розныя анекдоты, а часам успамінаюць здарэнні, якія здаваліся неверагоднымі. Мне запомнілася гутарка нашага суседа пра заблудаўскага разбойніка Кярсноўскага.

Было гэта зараз пасля І сусветнай вайны. У панядзелкі ў Заблудаве адбываліся мясцовыя кірмашы. Людзі прыязджалі з цэлай ваколіцы, каб прадаць жывёлу ці збожжа, або купіць нешта ў мясцовых рамеснікаў.

Па дарозе на рынак чакала, аднак, небяспека. Кярсноўскі, затаіўшыся ў адлюдным месцы, рэгулярна рабаваў сялян. Аднойчы, згледзеўшы гаспадара, які прадаў карову, чакаў яго ў зваротнай дарозе каля руінаў старога замка. Побач гэтага месца было дрыгвяністае балота. Часта коням не хапала сіл, каб выцягнуць воз з гэтай багны. Так было і ў той раз. Гаспадар не змог пераехаць балота. Конь тузаўся, але „жалязняк" стаяў на месцы. Недалёка, на сухой зямлі, стаяў Кярсноўскі і прыглядаўся таму, што робіцца. І бачыць, што гаспадар злез з воза, выпраг каня, сам узяўся за аглоблі і выцягнуў яго з багны. Пасля голасна сказаў каню: „Не дзіва, што ты, коніку, не даў рады. Нават я ледзь яго выцягнуў". Кярсноўскаму аж валасы дыбам сталі і не ў галаве яму было нападаць на такога асілка. Думаў толькі, як яму адысці, каб гаспадар не прыкмеціў. З тае пары як бы і спакайней стала на дарогах.

**АЛЯКСАНДР БАРТАШЭВІЧ**

# КАЛІ І ХТО ЗАПЛАЦІЦЬ ЗА ВУГАЛЬ?

Многія школы ў нашым ваяводстве забяспечаны апалам, дзякуючы прадпрыемству **Węgiel** з Бельска-Падляшскага. У школьніцтве праяўляецца фінансавы крызіс. Грошай ледзь хапае на зарплаты настаўнікам. Вугаль цяпер дарагі. Аднак прыватная фірма „Węgiel" разумее праблему. Па просьбе дырэктараў школ дастаўляе вугаль у крэдыт, хаця гэта ў цяперашняй эканамічнай сітуацыі не выгадна для прадпрыемства. Кожны крэдыт прыносіць фірме пэўныя страты. Задоўжанасць школ за вугаль расце. Вось для прыкладу некаторыя сумы, якія вінаватыя школы фірме „Węgiel":

— школы з гміны Заблудаў — 140 млн. зл.
(у тым школа ў Рыбалах — 32 млн. зл.)
— Комплекс прафесіянальных школ у Бельску — 100 млн. зл.
— Комплекс будаўнічых школ у Бельску — 50 млн. зл.
— Ліцэй ім. Бр. Тарашкевіча ў Бельску — 50 млн. зл.
— Падставовая школа н-р 1 у Бельску — 35 млн. зл.
— школы з гміны Орля — 55 млн. зл.
— школы з гміны Кляшчэлі — 16 млн. зл.
— школы з гміны Лапы — 230 млн. зл.

У выніку збіраюцца вялікія мільёны. А хто і калі іх заплаціць? Справа пакуль не вырашана. Куратория асветы ў Беластоку маўчыць. Гмінным управам пэўна не пад сілу заплаціць за дастаўлены школам вугаль. Выходзіць на тое, што асвеце найбольш стараецца дапамагчы прыватная фірма „Węgiel". Аднак як доўга можна дастаўляць вугаль без аплаты? Для вядзення гаспадарчай дзейнасці грошы неабходныя. Што будзе, калі скончацца пастаўкі вугалю? Прыйдзецца, відаць, навучальны год перанесці на летні сезон. Чаму адказныя за школьніцтва чыноўнікі не спяшаюцца вырашыць гаспадарчыя праблемы?

**В. ХРЫСЦІНІН**

У Чаромсе

# „НАШЭСЦЕ" КАЛЯДОЎШЧЫКАЎ

15 і 16 студзеня г.г. у Юхноўцы, Чаромсе, Чорнай-Беластоцкай праходзілі Ваяводскія сустрэчы калядоўшчыкаў з усёй Беласточчыны. У Гмінны асяродак культуры ў Чаромсе прыбыло каля 150 калядцнікаў, у асноўнай сваёй колькасці са звёздамі, з дзесяці гмінаў, у тым ліку з Нараўскай, Гайнаўскай, Чыжоўскай, Бельскай, Боцькаўскай, Драгічынскай і Мельніцкай. Найбольш калядных гуртоў, бо па тры, прыехала з Бельскай і Чыжоўскай гмін.

Журы пад старшынствам праф. Ежы Сьрудкоўскага высока ацаніла выступленні фалькларных ансамбляў „Чыжавяне" з Чыжоў, „Каліна" з Дашоў (Кляшчэлеўская гміна), „Згодныя макі" з Райска (Бельская гміна), „Арэшкі" з вёскі Арэшкава (Гайнаўская гміна), „Родына" з Дубяжына (Бельская гміна), „Вульчанкі" з Вулькі-Тэрахоўскай (Чаромхаўская гміна) і „Тыневічанкі" з Тыневічаў-Вялікіх (Нараўская гміна). Найпрыгажэйшую звязду мелі „Згодныя макі" з Райска.

Добра рэкамендавалі сябе, хаця калядавалі без звязды, каляднікі з Дабрывады, Чаромхі-вёскі і Кнарыдаў. Многім падабалася сольнае выступленне 73-гадовай Антаніны Дацюк з Буякаў (Драгічынская гміна), якая спявала беларускія і польскія калядкі.

Пасля конкурсных выступленняў калектывы ездзілі калядаваць у вёскі Чаромхаўскай гміны. Было гэта сапраўднае нашэсце калядоўшчыкаў.

**ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ**

# Wielka Orkiestra Owsiaka па-беларуску?

— Мы калядуем на Вялікі Аркестр Оўсяка, — заявілі пры ўваходзе ў першую хату ў Кузаве кабеты з калектыву ў Райску.

— Што? На музыкантаў то я вам не дам грошай, — адказаў дзядзька і зачыніў дзверы перад носам.

І трэба было спачатку тлумачыць мясцовым з якой мэтай мы калядуем. Што Wielka Orkiestra Świątecznej Pomocy Owsiaka — гэта не нейкія музыканты, а проста збор сродкаў на дапамогу хворым дзеткам. Такіх сітуацый было многа. Толькі лічаныя гаспадары ведалі, што такое Wielka Orkiestra. Аднак аб паспяховасці акцыі сведчаць яе вынікі. У дзевяці мясцовасцях Чаромхаўскай гміны было сабрана звыш 13 мільёнаў злотых. 16 студзеня падчас Ваяводскіх калядных сустрэч у Чаромсе калектывы, пасля выступленняў на сцэне мясцовага дома культуры, паехалі ў навакольныя вёскі калядаваць на хворых дзетак.

Я акурат калядаваў разам з калектывамі з Арэшкава і Райска ў Кузаве. І хачу сказаць, што быў прыемна ўзрушаны. Вось людзі, па-вонкавым выглядзе хаты і панадворка відаць, што не жывуць заможна, даюць па 100 тысяч. „Бярыце, калі гэта пойдзе на хворых дзетак, бярыце", — гаварыла кабета, у якой хворая ўнучка. Унучцы зараз сем гадоў і чакае яе аперацыя сэрца. Напачатку лекары лічылі, што абыдзецца без аперацыі, але цяпер гэта ўжо мус. Гэтая бабуля разумее ідэю Wielkiej Orkiestry і тое, што ў цяперашні час многія дзеткі проста прысуджаны лёсам з-за свайго здароўя.

Мне ўбіўся ў памяць яшчэ адзін эпізод. Ужо пасля калядаванняў, калі мы збіраліся схаць назад, падышоў да мяне адзін дзядзька і даўшы 50 тысяч злотых, сказаў: „Калі вы хадзілі, мяне ў хаце не было, сама акурат упраўляўся". „Ці Вы ведаеце, на што мы збіраем грошы?" — запытаў я дзядзьку. Тут дзядзька крыху задумаўся і прагаварыў: „Ну, хіба на царкву..."

Гэта свайго роду цікавая з'ява. Праваслаўны калектыў ходзіць, калядуе, збірае грошы. Ці, у свядомасці такога дзядзькі, можа ён (калектыў) збіраць грошы на нешта благое? Нашы людзі, нашыя калядкі — малаважна, ці збіраюць на царкву, ці на хворых дзетак — напэўна, робяць добрую справу!

**ЮРКА ЛЯШЧЫНСКІ**

# „БЛАСЛАВЕННЕ" Ў БАГАТЫ ВЕЧАР

Янка Ляўкоўскі ў сваім сэнсоўным артыкуле „Багаты вечар" („Ніва" н-р 3) даў дэталёвы аналіз нашай нядаўняй традыцыі сустракання Новага года, славутае „гагатухі". Гэтая традыцыя жыла сярод беларусаў Беластоцкага краю, і сёння не зусім яшчэ пагасла, прынамсі трывае ў нашай падсвядомасці.

Я раскажу пра адну гісторыю, як мы, „кавалерка", сустракалі калісьці Новы год у „багаты вечар" у Дубічах-Царкоўных. Вядома, вечарам давай мы здымаць брамкі з платоў і адносіць як мага далей. У аднаго дзядзькі нарабілі мы пры гэтым шмат шуму, ягоная жонка выбегла з хаты. Схаваліся мы за плотам суседа. Тая цётка (дачка колішняга дыякана) пачала нас „блаславіць" такімі страшнымі славамі, што ў нас валасы дыбам паставалі на галаве. Спалохаліся мы праклёнаў, хутка начапілі брамку на сваё месца. З той пары я пабаюся прымаць удзел у такіх жартах у „багаты вечар!

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

# БЯДА НАША НЕ Ў АРЫЕНТАЦЫІ, А Ў СІТУАЦЫІ

Прачытаўшы развažанні Васіля Антанюка („Ніва" н-р 3 ад 16 студзеня г.г.) я трывожна задумаўся. Аўтар артыкула „Бяда наша ў арыентацыі" даволі лёгка знайшоў вінаўнікаў „свядомых нападкаў на нас, праваслаўных". Даказвае, што найбольш вінаватае ў гэтым праваслаўнае духавенства. У такім разе на каго або на што нам, „тутэйшым", арыентавацца? У чым шукаць паратунку? Можа папрасіць у каталіцкага кліру прабачэння за такі грэх, што молімся „па-руску" ў праваслаўных царквах?

Васіль Антанюк надта баіцца міжнацыянальных і рэлігійных канфліктаў і, пэўна, таму намагаецца апраўдацца. За што і перад кім? Ці спадзяецца на тое, што вышэйшае каталіцкае духавенства чытае „Ніву"? А можа лепш было б Антанюку пайсці ў каталіцкі касцёл і шчыра паспавядацца на беларускай мове?

Панічны страх часта муціць чалавеку розум. Ён тады страчвае пачуццё уласнай годнасці.

Васіль Антанюк, пэўна, не вельмі добра зарыентаваны ў нашай рэчаіснасці. Чамусьці шукае апраўдання для беспадстаўных закідаў каталіцкага духавенства ў мове праваслаўнага духавенства. У сваім артыкуле Антанюк схіляецца да важнасці беларускай нацыянальнасці, спадзеючыся на каталіцкае памілаванне ў нашай бядзе. На жаль, часта мы спадзяемся, што выратуе нас нейкая арыентацыя.

Справа, па-мойму, выглядае інакш. Бяда наша не ў арыентацыі, а ў сітуацыі. Так склалася на працягу стагоддзяў, што польскі шавінізм знайшоў сабе моцнае апірышча ў каталіцызме. Украіньўся нават стэрэатып, што добры паляк — гэта католік і наадварот. Можа Антанюк пра гэта не ведае, калі спадзяецца, што ўшануюць нас, калі будзем у царкве арыентавацца выключна на беларускасць? Аднак, найчасцей шануюць сільных, а не пакорных. А мы, беларусы Беласточчыны, без сваіх карэнняў, без традыцыі, без рускай супольнасці не будзем моцнымі. З другога боку, трэба быць свядомым, што рэлігія і нацыянальнасць — не адно і тое ж самае. Вядома гэта ўсім міжнародным форумам і няма сэнсу стварыць яшчэ адзін бязглузды варыянт, што добры праваслаўны — беларус, а добры беларус — праваслаўны. Рэлігія наогул не павінна дзяліць на лепшыя і горшыя нацыі, толькі яднаць іх.

А цяпер варта задумацца, што з намі, „тутэйшымі" на Беласточчыне, цяпер было б, каб не праваслаўе і „русінскасць"? Многія стагоддзі намагаліся нас навярнуць на „сапраўднае хрысціянства" і далучыць да „вышэйшай культуры". У тым перашкаджае і наша мова „руская" і праваслаўныя „папы". Антанюк пэўна слаба разбіраецца ў гісторыі, калі паўтарае, што „русіны" „паходзяць з Расіі за тысячу кіламетраў ад Беласточчыны". Мы тут спрадвеку „рускія" і няма чаго саромецца. Біблія на „рускі язык" (старабеларускую мову) перакладзена Скарынай паўстагоддзя раней за польскі пераклад. Бяда ў тым, што пра тое не ведаюць нашыя суседзі і мы забылі. А Масква была тады яшчэ далёка. Вось тады забаранялася наша руская мова, каб магла развівацца польская культура. Гэта бясспрэчны гістарычны факт. Заходнія суседзі добра ўсведамляюць, што нашае апірышча на Усходзе. Менавіта таму некаторыя намагаюцца пазбавіць нас гістарычнай спадчыны, нашых карэнняў. Вось таму ўзнікла „беларуская" рэлігійная унія. І гэта, паважаны Васіль Антанюк, не праваслаўнаму духавенству „хочацца, каб не было беларусаў на Беласточчыне" — як сцвярджаеце ў сваім артыкуле. Я ў сваім жыцці яшчэ не сустрэў, каб у праваслаўнай царкве беларус адчуваў сябе дрэнна.

А вось загляньма ў каталіцкія касцёлы на ўсходняй Беласточчыне. Там не знойдзеце ніводнага „адважнага" беларуса. Многія каталіцкія вернікі ў хаце размаўляюць на сваёй „простай" мове і, дзякуючы міласэрнасці каталіцкага духавенства, робяць усё магчымае і немагчымае, каб пазбавіцца сваёй „рускасці". Я сам пахрышчаны ў касцёле (па бацьку) і дзе мне шукаць сваёй беларускасці?

Я нават баюся прызнавацца перад ксяндзамі, што я — беларус. Цяпер на Беласточчыне не знойдзем ніводнага каталіцкага святара, які схоча ўшанаваць нашу мову. Беларусы для іх існуюць недзе за Менскам. Беларускія землі для іх гэта „польске крэсы всходне". Мы (беларусы-католікі) не існуем. І толькі дзякуючы праваслаўю часам беларусаў заўважаюць.

А калі ўжо шукаць нашай віны, дык перш за ўсё заключаецца яна ў слабой нацыянальнай свядомасці. А гэта ўжо іншая справа. Адзін разумны чалавек сказаў калісьці: „Takie będą narody, jak ich młodzieży chowanie". А што ў нас? „А у нас огонь погас". Вось так, калі ідзе пра справы асветы і культурнай дзейнасці. Многа ёсць беларускіх асветна-культурных дзеячоў, а вынікі іх працы — мізэрныя. На Беласточчыне маем нават два так званыя „беларускія" ліцэі. А дзе іх выпускнікі? Дзе падзяваецца беларуская інтэлігенцыя? Некаторыя настаўнікі навучалі беларускай мове некалькі дзесяцігоддзяў у тых ліцэях. За тое іх нават медалямі ўзнагароджвалі. А якія вынікі іхняй працы? Вось такія, што мне, самавуку літаратурнай беларускай мовы, прыходзіцца пісаць матэрыялы ў „Ніву". Чаму ў нашым тыднёвіку не можна стварыць хаця б адной старонкі з тэкстамі ліцэістаў?

Нарэкаць і шукаць вінаватых у нашай „бядзе" дык мы патрапім! Бадай найбольш нарэкаюць настаўнікі беларускай мовы. Мяне асабіста здзіўляе факт, калі педагогі скардзяцца, што няма новых навучальных праграм па беларускай мове. А хто іх мае падрыхтаваць? У „Ніве" вельмі часта пішацца пра крытычны стан навучання роднай мовы. Многія настаўнікі слабенька валодаюць літаратурнай беларускай мовай, а спадар Антанюк патрабуе ад праваслаўнага духавенства, каб адрадзіла нам мову.

У нашай сітуацыі трэба дзейнічаць больш разумна, каб іншыя нас шанавалі. Менш баяцца, а больш шчыра працаваць!

**ЯН МОРДАНЬ**

# У СЕЙМАВАЙ КАМІСІІ ПРА ГРОШЫ

19 студзеня 1994 г. сеймавая Камісія па справах нацыянальных меншасцяў разглядала праект фінансавання мерапрыемстваў арганізацый нацыянальных меншасцяў Міністэрствам культуры і мастацтва, якое прадстаўляў намеснік міністра Міхал Ягела. Міністр прапанаваў зацвердзіць план, згодна з якім выдаткі Міністэрства на дзейнасць арганізацый нацыянальных меншасцяў маюць скласці 9 млрд. 240 млн. злотых. Год раней было гэта 8 млрд. 307 млн. злотых. Сёлетняя сума не выраўнае вынікаў інфляцыі, але (як паясняў міністр) і так будзе параўнальна большая, чымся ў іншых аддзяленнях Міністэрства.

Міністр Міхал Ягела адзначыў таксама, што ў сітуацыі, калі грошай усюды не хапае, Міністэрства лічыць найбольш мэтазгодным падтрыманне прэсы нацыянальных меншасцяў, прынамсі па адным часопісе для кожнай з іх. Найлепшай сітуацыяй міністр лічыць такія ўмовы, калі кожная меншасць мае па два часопісы. Такое ёсць у беларусаў, украінцаў і немцаў, каб чытач меў выбар.

У дыскусіі аказалася, што паслы маюць перад сабою план, у якім прадугледжваецца выдаткаванне звыш 19 мільярдаў злотых. На пытанне пасла ад Уніі працы, беластачаніна Артура Смулкі, як гэта разумець, міністр паясніў, што 19 мільярдаў гэта мінімальная сума, якая сапраўды патрэбная. Гэтыя 10 мільярдаў, якіх не хапае, Міністэрства спрабуе дастаць з рэзерву. Абяцаў таксама прадставіць паслам план на гэтых 9 мільярдаў, з якіх пачыналася размова.

Такім чынам, паслы не мелі сапраўды пра што дыскутаваць. Адзін з іх, спрактыкаваны ў дзейнасці Камісіі ў Сейме папярэдняга склікання, прапанаваў зрабіць так, як раней рабілася: прыняць план на 19 мільярдаў, са свядомасцю, што і так не будзе ён адобраны. Так і зрабілі.

Паколькі справа грошай засталася нявырашанай, неабходна яшчэ расказаць крыху пра самыя нарады. Іхнюю атмасферу ажывіў адзін з паслоў ПСЛ, які ўсумніўся ў мэтазгоднасці фінансавання часопісаў накшталт украінскага „Нашага слова", якое крытыкавала яго за пастаўленае ўкраінцам пытанне: „Kto Polaków przeprosi?". Міністр Ягела напомніў яму ў адказ, што ў Польшчы няма цэнзуры.

Як ні дзіўна, іншы пасол ПСЛ цвёрда змагаўся за два мільярды злотых на заканчэнне пабудовы Дома культуры ў Пуньску, не пераймаючыся тым, што літоўская „Аўшра" публікуе весткі аб акаўскіх злачынствах на Віленшчыне (Камісія яго падтрымала, баюся толькі, што са свядомасцю, што і так нічога з гэтага не атрымаецца).

Ад нарадаў Камісіі ў мяне засталося ўражанне, што сітуацыя, калі меншасці карыстаюцца толькі цэнтральнай дзяржаўнай дапамогай, без удзелу мясцовых уладаў (як гэта ёсць у Беластоцкім ваяводстве) азначае проста гібенне.

Беларусы ў Польшчы не скарысталі магчымасцяў стварыць моцныя арганізацыйныя падставы свайго існавання. Не здолелі нават выбраць свайго пасла. Калі дадаць да гэтага марную падтрымку з боку Рэспублікі Беларусь, спакойна можна сцвердзіць, што апынуліся мы ў становішчы падобным цыганам. Аб нашай бяздарнасці красамоўна сведчыць факт, што атрымоўваем з дзяржаўнага бюджэта толькі крыху больш грошай за славакаў, якіх менш за нас недзе ў пяцьдзесят разоў!

Нават нарэкаць ужо не хочацца.

**АЛЕГ ЛАТЫШОНАК**




## „Спатканне ў Варшаве"

Каментарый Рэдакцыі „Нівы" да нататкі „Спатканне ў Варшаве" („Ніва" н-р 2 ад 9.I.1994 г.) не мог тут астацца без рэха. Праўда, што „варшаўскія беларусы" недаінфармаваныя пра Беласточчыну, але сцвярджэнне, што адзінай крыніцай інфармацыі стаў Ян Сычэўскі з'яўляецца перавелічэннем. Нашае асяроддзе перш за ўсё выкарыстала прысутнасць старшыні БГКТ у Варшаве, з мэтай даведацца, што дзеецца ў беларускай грамадзе, тым больш, што летнія нашы запросіны прадстаўніка вашай шаноўнай Рэдакцыі ці БДА аказаліся беспаспяховымі. Інфармацыя пра сітуацыю беларускай меншасці ў Польшчы наогул і пра культурную дзейнасць БГКТ, падбудаваная асвятленнем канкрэтных фактаў ці здарэнняў, паказалася прысутным пераконваючай. Дакладчык не зрабіў ніякіх намёкаў у адрас іншых арганізацыяў ці груповак, а факты, між іншым, пазбаўлення арганізацыі памяшкання, стан навучання беларускай мовы ці тыраж „Нівы" прывёў дзеля паяснення складанай сітуацыі меншасці. Са сказанага ніхто з прысутных не вынес уражання крытыкі Рэдакцыі „Нівы" ці самога тыднёвіка, тым больш, што наогул зацікаўленым вядомая магчымасць выказання думак кожнаму на старонках газеты, што зрэшты асабіста дасведчыў і цэніць аўтар гэтых скромных радкоў. Прыведзеную колькасць 500 экземпляраў „Нівы" не абвергла ў сваім каментары сама Рэдакцыя. У падсумаванні вышэйзаўважанага асуджэнне дакладчыка ў паўтаранні няпраўды здаецца незразумелым.

Крыўдным паказалася абагульненне: „спадар міністр яшчэ пад уплывам тых інфармацый „сяброў" у Варшаве"... Чаму мела б служыць спроба супрацьпастаўлення сабе варшаўскага і беластоцкага асяроддзяў? Міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Анатоль Бутэвіч даволі падрабязна расказаў пра свае кантакты з польскім бокам, даў адказ на пытанні адносна сітуацыі ў Беларусі, а яго крытычныя заўвагі на [illegible] беларускай меншасці ў Польшчы якраз спаткаліся з закідам з боку прысутных, што карыстаецца чужымі інфармацыямі і што карысным яму было б пагутарыць таксама і з людзьмі ў беларускіх асяроддзях. Нікому аднак не прыйшло ў галаву, што спадар міністр паслугоўваецца інфармацыямі „беластоцкіх сяброў". Зрэшты, абсалютная большасць „варшаўскіх" беларусаў гэта выхадцы з Беласточчыны, з якою яны атаясамліваюцца.

Заўвага міністра Бутэвіча аб неабходнасці прымірэння беларускіх згуртаванняў не было для прысутных нічым новым. Кожны беларус адчувае прагу згоды ў асяроддзі, асабліва ў часе найбольшай неабходнасці ўзаемнага зразумення і сумеснага канструктыўнага дзеяння.

**Я. ЖАМОЙЦІН,**
Варшава

**АД РЭДАКЦЫІ:** Пішучы пра „сяброў" у Варшаве мы не мелі на ўвазе варшаўскіх беларусаў, а толькі тых нашых „сяброў", якія далі міністру Бутэвічу падставы паўтараць фразу: „мне ў Варшаве сказалі..." і тут плылі інфармацыі пра Беласточчыну, якія з рэчаіснасцю не мелі нічога супольнага. А ўжо ў ніякім выпадку не было нашым намерам проціпастаўляць сабе варшаўскіх і беластоцкіх беларусаў.

# БЕЛАВЕЖА

*СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ № 409*

*БАРЫС РУСКО*

## ОДУМ

I

Я на ўзбочыне мінулых дзён.
Пачуцці ў карцінным пункце.
Было, было...
Акцёры! А гулялі ў што?
Код пад руінамі...
Аб чым ты?..
Пад ранамі ўтоенай праўды?..
Маўчыць нямко, дзень заўтрашні.
Значыць, не ўведаю Круг я.

II

Каб не каханне —
не квітнелі б дрэвы,
ні травы,
знік бы мёд,
бо зніклі б пчолы
і матылі,
і спеў —
не было б птушак
і чалавека.
Зямля без кахання —
зямля без жыцця,
дробны асколак космасу.
Ї клічнікаў няма.
Зямля без малітвы,
з бяссэнсавым слупам
на раздарожжы.

III

Гмах усёабдымны —
няспынна-чулая містэрыя
ў жывым ланцугу чакання,
парадак у парадку
і хараство ў харастве,
звыштонкая прысутнасць
у непрысутнасці,
і вялікае ў малым,
і паўната ў пустоце,
і іерархія ў роўнасці,
і гармонія ў гульні.
Як прамаўляе сімволіка Генія,
і якая цудоўная яе структура!
То напачатку былі паняцці,
а потым свет.

IV

Разбудзіла чалавека паэзія,
як луг поўны шаленства.
Лопае час у крыку карціны
і ў крылах песні.
Згортваецца ў бутон раўніна
і мовіць аб сабе,
аб сваім болю.
Неба ўзлятае птушкай
у блакіт гняздоўя,
без развагі,
без роздуму.

А ўсютка чакае і кліча,
як за парогам пачуцці,
як зерне,
што кінулі на камень.
Люблю шаленства ў гонцы —
не застываю ў прозе —
і ціш,
каб уведаць сэнс тварэння.

V

Жанчына — выява звышгенія.
То кош духмяных кветак.
То трапятанне крылаў у палёце.
То ўсмешка горкая скрозь слёзы.
То бляск з акіяна сонц.
То вочы неба бяздонныя.
То чаканне ў чаканні бясконцым.
То вера доляй неабчэсана.
То магчымасць
з гульні немагчымасцей.
То на ахвярны алтар прынашэнне.
То слова са слоўніка Бога.

VI

Слухайце шэпту зямлі.
Пагорак —
з крыжам ці без яго —
няварты косці спаленай у кастры,
ні вырванай жылы з цела
і адсечанай часткі грудзей.
У пакуты колер пурпурны,
як акрываўленыя вочы,
як лязо нажа з грудзей,
як сэрца на падносе.
Словы ўміраюць,
хоць у дабра адна мера.
Ї праўда без адценняў.
Ї любоў не ведае сірот.
Словы ўміраюць
пад драбільным ботам гусеніц.

VII

У святыні подых бесцялеснасці
так лагодны
і так прачулы,
што з цяжкасцю пераступаю
парог вяртання.
Звышсветлавы свет ажурны,
без галаўных udaраў,
без сварак і зайздрасці,
з уласнымі крыламі
і агульнай мовай.
Начное неба – горад,
поўны трывогі і тлумны,
з радасцю нараджэння,
з болем смерці,
з тэатрам пасярodку,
і побач з цыркам,
і са мною на ўзбочыне.
Свет Гейзенберга
ашаламляе ігрой скрыпкі
ў мініяцюры Ладу.

Усё — жэст адной Далоні
і аднаго Розуму,
і адной бязмежнай Волі.

VIII

Знаёмы я з дубам старым,
як слова Бібліі.
У магутнай постаці
моц сонца і сіла зямлі,
вялікая і жывая.
У яго абдымках вібрую,
пад сон,
пад калыханне душы.
У аазіс дабрыні
паўзу на каленях.

IX

Шахматы, марафон,
душа і цела,
гармонія і хараство,
піраміда ў камені
і азарэнне ў плыні змроку —
світанак.
А пясок дзьме ў вочы.
А хада з волава.
А час віруе зябкі,
як глыба лёду на хрыбце кіта.

X

На магілу гэту кладу крапіву,
каб зло не адчыніла века.
Ї радзюжку кладу непрамакальную,
і плуг, што ўзнімае час нанава,
і камень літы розуму,
і дзесяць запаветаў у апраўе
з гісторыі.

**Да друку падрыхтаваў**
**Георгі Валкавыцкі**

…НЕ АСЫМІЛЯЦЫЯ, А ТОЛЬКІ – ІНТЭГРАЦЫЯ !



*Мал. Міколы Давідзюка*

**Францішак Кабрынчук** нарадзіўся ў Грымках, што на Падляшшы. Прафесар ветэрынарыі. Польскі пісьменнік. Піша для дзяцей. Выдаў шэраг кніжак.

Друкуем невялікую падборку яго новых вершаў, прысвечаных Белавежскай пушчы.

* * *

У пушчы, у Белавежскай,
снежным поранкам
ляснік пан прывёз
сена на паляну.
Стаяць у чаканні зубры,
алені і ласі.
Хутка на сняданак
духмяны
ветрык запрасіў іх.

* * *

Спіць зубраня ў цяні лістоты,
вельмі ж стамілася.
Апусціла неспакойны хвасток —
намахалася, змарылася.
Заўтрашнім днём, можа, леснікі
зробяць парадак у лесе,
прагоняць прэч авадні, слепнякі
на лугі і палі гэй у залессі.
А камарыкам-насацікам загадаюць,
каб праз цэлы божы дзень
не звінелі, не гудзелі,
і за вушыма не сядзелі.

**КНЯЖЫ ГНОМ**

— Хто я буду? — княжы гном
з даўняе часіны.
У дрымучай Белавежы дом,
мая хаціна.
Гутаркі з Ягайлам меў,
у бары і над рэчкай.
Палявалі; балявалі ноччу зорнаю,
пільна слухалі мяне ямчэ
і Сабескі, і Баторый.
Цяпер сяджу ціха на лістку
ля жвавага ручайку,
ах як добра ў гушчавіне!
Мушкі звоняць, а самыя матылі,
бы ў байках, у якіх жыву я,
і не хочацца мне з пушчы,
не пакіну дрэў, звяроў, —
дух лясны я ад вякоў.

**СЦЯЖЫНЫ**

Нападаў снег у пушчы мяккі,
белы, аж прыгожы!
Хто сцяжын натаптаў тут далёкіх?
Які гэта падарожны?
Казуля імчала пужліва,
сарваўшы сухое зелле.
Там жа сунуўся бегма, гулліва,
дзік неўгамонны, а потым алені.
То зайка наўкола яліны
слядоў напятляў, угрэўся касаты.
А во і зубры йшлі з начное цямніны,
цяпла надыхаўшы з храпаў.
Побач жа сляды дзіўныя неяк
пагінулі ў курганні навеінаў.
Найначай рыцар цудоўны і дзельны
спяшаў на кані да свае каралеўны.

**Пераклаў С. Яновіч**

*САКРАТ ЯНОВІЧ*

## БАЛЬ НУВАРЫШАЎ

Новы год сустрэлі перш ва ўправе гміны. Гэта там моцна бухнула. А дванаццатай уночы выпіўшы войт выхапіў ракетніцу ў каменданта паліцыі і стрэліў на віват, пад сукню свае каханкі. Спрытна; баба не паспела перапалохацца, а сама ракета жыхнула цераз аздобныя яе фалды проста ў буфет, запаліўшы скрыню алкаголяў. Бутэлькі трэскалі, пырскаючы сінім полымцам на мужчынаў, што не адступаліся. Пакуль гарэла жытнёўка і тлелі каньякі, сітуацыя не бачылася безнадзейнай. Памылку дапусціў потым менавіта войт, паліваючы вогнікі газаванай вадою з сіфона. Заняўся затым раял-спірт, гэтая дарэмшчына ад савецкіх кантрабандыстаў, якіх наарыштоўвалі на перадкаляднымі рынку.

Жанчыны — фыркатлівым кагалам — апынуліся на вуліцы, па-гусінаму то гевалцячы, то ацікаючы ад далятаючых да іх камандаў у бальнай залі: „Анучамі гасі, булава!"

Дэтанацыя расейскіх бутлягаў аказалася не столькі шкоднаю, колькі гуллівай. Хваля паветра здзьмухнула павярхоўны пажарык. Накапцілася празрыстага дыму з дурманам дэнатурных пахаў. Пацверазелыя спадары, засупоненыя гальштукамі, пырхліва абмываліся ў санітарыяце. Квяцістыя спадарыні радасна наводзілі парадак на неўсмаленых сталах, пасля чаго ўсім таварыствам прычакалі войта з любкаю. Яна, прычэсаная пад Мэрлін Манро, пляснула пацалуначак у саланіністую шчаку дабрадзея, сказаўшы яму сіплым галаском: „Бядуля ты мая". Ён, вытрашчыўшыся сяржантам на дэфілядзе, гыркнуў, аж паліцай ляснуў абцасамі: „Гу-уля-ем!!!"

Ї ўзнялася катэгарычна энтузіястычная п'янка (на рахунак цяпер крамніка Махлярчыка).

Свая кампанія навагодзіла ў мясніка Казарэза, і свая ў млынара Пыталя. Сялянская нудота па задворках нікуды не паказвалася ў той вечар, дрэмлючы перад тэлевізарамі са святочнай хярнёю.

Казарэз праявіў фантазію, прычапіўшы коцікам да хвастоў штучныя агні. Беленькі з іх, выпушчаны пад усеагульны рогат на падворак, скачучы іскрыстай спружынаю пагнаўся ў падваротню стадолы. Большы, рыжы і хітрэйшы, рынуўся ў балаганна расчынены гараж, у які награмадзілі былі правінцыяльны запас бензіну. Стадальню затушылі б, калі б не пачало рваць тыя каністры і каціць адтуль палыхаючыя колы з псыканнем байкавых змеяў... Па Казарэза прыехала з блізкага горада карэтка хуткай дапамогі.

Пыталь жа дурэў спакайней. У поўнач падбухторыў кагосьці з гасцюючых у яго, каб паездзіць з ім аўтамабілем па вулічках, а ён будзе трубіць ды шпурляць праз апушчанае ваконца шафёркі петарды ў заплоцце. Было што паглядзець: адно за адным яснелі электрычным святлом вокны ў хатах, скуголілі дварнякі, з крыкам падымаліся ў адліжнае неба вароны, заначаваўшыя ў старадрэўі, драпала з разваленых прыгуменняў дзікае звяр'ё.

Ї хоць пабольшала выдумак у мясціне, усё роўна бядак бедаку не пастараўся, учыніў адвечна тую самую неспадзяванку: здымалі з завесаў брамкі, закідаючы ў чужы закутак, каб добра пашукаў... А я нікому і таго не зрабіў, самахоць прыхаваўшы сваю ламарэндзіну з засаўкай, як толькі звечарэла: хай хто прыемна падумаў, што нехта ўжо начоўп мне дураты.

Перажыўшы атракцыёны нашай новай буржуазіі я, аднак, з некаторым страхам чакацьму дзевяноста пятага года. Што здумае тады войт, а што Казарэз і Пыталь?!

# Зорка
## Старонка для дзяцей

## Вершы Віктара Шведа

### СТАРЫХ СПЫТАЦЬ ТРЭБА

Прыехаў мужчына
У дом адпачынку.
Страшэнны дождж лінуў.
Спытаў ён дзяўчынку:

— Ці ў вас калі небудзь
Тут сонца бывае?
— Старых спытаць трэба:
Я сем гадкоў маю.

### МАГУ АСТАЦЦА ДОМА

Раніцою лае мама
Ляноту Міколу:
— З надта бруднымі нагамі
Не пойдзеш у школу!

Ды не хочацца ўмывацца
Хлопчыку малому.
Кажа ён: — Магу застацца
З прыемнасцю дома.

### У СТАЛОВАЙ

Запрасіў татулька Лёву
Паабедаць у сталовай.
Да стала там праз хвіліну
Нейкі падышоў мужчына.

— Дык настаўнік будзе гэта —
Сведчыць школьная прыкмета:
У сталовай на абедзе
Крэсла ён раней агледзеў.

### БЕДНЕНЬКІ МОЙ ТАТА

Паланістка надта Жэню
На ўроку сварыла:
— У дамашнім сачыненні
Маеш шмат памылак.

Жэня па ацэнцы строгай
Буркнуў вінавата:
— Карыстай тут з дапамогі —
Бедненькі мой тата!

### ГЛЫБОКАЯ ВЕРА

— Сёння класная работа
Ў школе на ўроку.
Тут няма ніякай льготы,
Маю вас на воку.

А на спісванні, я веру,
Не злаўлю нікога.
— Верым гэтак жа наперад,
Не будзьце ж нам строгім.

### РАЗУМНАЯ ПТУШКА

Вывучаюць дзеці на ўроку
Свет птушыны, што маем навокал.
Запытаўся настаўнік Сашу:
— Што ты скажаш аб
ластаўцы нашай?

— Гэта вельмі разумная птушка,
Што з'ядае нахабныя мушкі.
Адлятае ад нас заўсёды
На пачатку школьнага года.



*На "ёлцы" ў Крыўцы.* **Фота М. Лукшы**

# ПАДАРОЖЖА ПА МОВАЗНАВІІ

*(працяг з папярэдняга нумара)*

12

### Ловім гукі і літары

У гэтай гульні правяраецца ўважлівасць і ўменне арыентавацца ў гуках і літарах. Вядучы загадзя рыхтуе спіс слоў-„лавушак", у якіх ёсць або адсутнічае загаданы гук (або літара). У звычайным тэмпе ён чытае запар словы, удзельнікі гульні „ловяць" літару ці гук. Сігнал — паднятая рука, пляск у далоні, сігнальная картка ці флажок і інш. Напрыклад, дамовіліся „лавіць" [т'], вядучы чытае: *дзеці, цёмна, цёця, цэгла* (хто падняў сігнал, учуўшы слова *цэгла*, той памыліўся), *косці, касцы* (можа быць памылка ў слове *касцы*). Або — „ловім" [л] цвёрды: *сіла, Сіма, ляпма, лаўка* і г.д. (у другім і трэцім словах няма што „лавіць").

Гульня праводзіцца ў некалькі тураў, у кожным выбываюць тыя, хто памыліўся; гуляць можна да апошняга — пераможцы, а можна спыніцца на некалькіх апошніх, дамовіўшыся загадзя аб колькасці тураў. У кожным туры літары розныя, таму адзін і той жа спіс магчыма скарыстаць некалькі разоў. Можна таксама прачытаць гатовы тэкст (напрыклад, выразаны з газеты верш, у якім вядучы для сябе пазначае загадзя патрэбныя літары ці гукі — кожны выпадак іншым колерам).

За ходам гульні сочаць суддзі, колькасць іх залежыць ад колькасці ўдзельнікаў (напрыклад, калі гульня праводзіцца ў класе, то ў кожнага суддзі свой рад). Можа судзіць і сам вядучы, толькі тады ён чытае словы не запар, а пасля кожнага прачытанага выдаляе тых, хто памыліўся, і яны да канца гульні сочаць за яе ходам: трэба ж добра запомніць, якое слова „злавіла лаўца", разабрацца, дзе была памылка, каб у наступных турах не пападацца ў „лавушку".

### Дзяжурная літара

Давайце дамовімся: няхай у гульні прымае ўдзел дзяжурная літара. Яе пост — у пачатку слова. Напрыклад, сёння дзяжурная літара К прапануе напісаць:

* сем прозвішчаў беларускіх пісьменнікаў,
* сем прозвішчаў польскіх пісьменнікаў,
* сем назваў мастацкіх або мультфільмаў,
* сем гарадоў Беларусі,
* сем назваў нацыянальнасцей,
* сем назваў з раслііннага свету,
* сем назваў жывёл.

Калі гульня даспадобы, у наступны раз паклічце падзяжурыць іншую літару, якая дасць вам гэтыя ж або іншыя заданні (імёны, рэкі, кветкі, птушкі і г. д.) — колькасць іх можна паменшыць або павялічыць. Час не абмяжоўваецца (або абмяжоўваецца), праверка — пасля заканчэння работы.

Пры падліку балаў памылкова названыя словы не ўлічваюцца; за граматычныя памылкі балы здымаюцца.

### Схаваная літара

Вядучы бярэ з разразной азбукі адну літару, запамінае яе і, нікому не паказваючы, кладзе перад сабою. Удзельнікі па чарзе называюць словы (не менш як з дзвюх літар). Калі ў названым слове няма схаванай літары, вядучы маўчыць, а калі ёсць, аб'яўляе: „Ёсць!"

Хто першы адгадае схаваную літару (вядучы яе паказвае), той мяняецца месцамі з вядучым і працягвае гульню з новай схаванай літарай.

*(працяг у наступным нумары)*

# НЯЎДАЛЫ ЛЯТУН

Я асцярожна адхіліў полаг палаткі, выбраўся на волю.

— Дзед, ты куды?

— Спі, унучак, спі, яшчэ рана. Пайду на возера, налаўлю жыўцоў, а потым разам паставім донкі.

— Я з табой, дзед. Карасікаў умею лавіць.

Невялікае азярко, зацягнутае рэдзенькай пялёнкай туману, ад берага зарасло сітнягом, асакой. Тут, на дрыгвяністым дне, раздолле для карасёў. Захапіўшыся лоўляй, мы не заўважылі, як ранішні ветрык разагнаў туман над вадой.

— Дзед, можа, хопіць! — боўтаючы рукой у вядзерцы, сказаў Васілёк. — Бачыш, колькі іх, карасікаў! Цяпер будзем вялікую рыбу лавіць.

На супрацьлеглым беразе, у алешынах, пачуўся птушыны крык. Адтуль, часта махаючы крыльцамі, вынырнуў шэры камячок. Няўмела плануючы над вадой, ён пакіраваў у наш бок.

— Відаць, першы самастойны вылет, — паказаў я на птушачку. — Бачыш, як няўпэўнена махае крыльцамі. Як ты рукамі, калі вучыўся плаваць.

Над птушачкай, адчайна папіскваючы, праляцела пліска. Яна зрабіла круты віраж, быццам прасіла: „Вярніся назад! Не бачыш хіба, недарэка, што пад табой вада?" А птушачка, прыкметна было, прытамілася. Не даляцеўшы да берага, пачала зніжацца і — упала ў азярко. Не ўцяміўшы, што здарылася, шырока распасцерла крыльцы, некалькі разоў падскочыла, сілячыся дабрацца да берага. Потым звалілася на бок і сцішылася.

Берагавы ветрык пачаў адганяць птушачку на сярэдзіну азярка. Пліскамаці з крыкам насілася над вадой, аднак нічым не магла дапамагчы няўдаламу летуну.

Уражаны нечаканым здарэннем, я замёр на месцы. Апамятаўся, калі побач мільганула русая ўнукава галава. Васілёк на хаду скідаў з ног тапачкі.

— Куды ты?

— Хіба не бачыш? Птушачку ратаваць.

Васілёк кінуўся ў азярко, прадраўся праз сітняговы зараснік і паплыў. Спатрэбілася некалькі хвілін, каб дабрацца да тапельца. З вады вытыркалася толькі шэрая галоўка з раскрытай дзюбкай. Васілёк схапіў птушачку, выбраўся на бераг. З яго майкі ўніз, на дол, сцякалі брудныя ручаінкі.

— Жывая, дзед, — разгарнуў Васілёк далонь. — Перапалохалася толькі. Вунь як сэрца калоціцца ў грудзях!

— Пакладзі на купіну, унучак, — параіў я. — Няхай абсохне на сонейку.

Абціраючы мокрыя птушыныя крыльцы, Васілёк дакорліва шаптаў:

— Хіба ж табе можна лятаць над вадой? І сама ледзь не ўтапілася, і маці перапалохала. Вось вырасцеш — тады і лятай дзе хочаш.

Над нашымі галовамі па-ранейшаму трывожна, з крыкам, насілася пліскамаці. Васілёк паклаў птушачку на купіну, і мы рушылі да палаткі.

Я быў задаволены: у вядзерцы нёс неблагі ўлоў жыўцоў. Але больш за ўсё радавала тое, што мой унук гэтак чуйна адгукнуўся на птушыную бяду.

**МІКОЛА ГАМОЛКА**

# У ТЫТУНЁВЫМ ДЫМЕ

У рэдакцыі паступае шмат пісем з просьбамі расказаць пра тую ці іншую хваробу. Вельмі шмат вось такіх: „Мая чатырнаццацігадовая дачка Наташа пачала курыць, ды адкрыта, не саромеючыся. Я ў адчаі. І ні мае расказы аб шкодзе курэння, ні пагрозы і нават пакаранні не памагаюць. Што ж рабіць?..” Або вось яшчэ: „Большасць падлеткаў у класе, дзе вучыцца наш 13-гадовы Вова, курыць. І ў яго я ўжо знайшла папяросы. Што рабіць, як утрымаць яго ад гэтай згубы? У сям'і ёсць яшчэ маленькае дзіця, а я чула, што нават знаходжанне ў пакоі, дзе кураць, вельмі шкодна...”

Маці занепакоены нездарма, бо курэнне сыноў і дачок — звярніце ўвагу: Наташа і Вова яшчэ ў сёмым і шостым класе — стала не менш небяспечнай хваробай, чым гіпертанія, халецыстыт, гастрыт і нават горш таго... Кажу: не менш небяспечнай, бо з ім, з курэннем, якраз і звязаны шматлікія захворванні. Лекар у гэтых выпадках часцей за ўсё не мае чым дапамагчы, бо ад шкодных, згубных звычак няма лекаў. А звычкі гэтыя, быццам цяжкая кара, на ўсё жыццё. Многія таты і мамы гэта зведалі на сабе або на сваіх блізкіх, таму і стараюцца ўсяляк засцерагчы дзяцей.

Эпідэмія курэння захапіла не толькі мужчын, а і маладых жанчын, падлеткаў. Згубная звычка „амаладжваецца”. Даследаванні сацыёлагаў паказалі: 39% дзяўчынак і 52% хлопчыкаў пацягнуліся за папяросай яшчэ да пятнаццацігадовага ўзросту. Пасля дзевятнаццаці гадоў жыцця курыць пачынаюць ужо толькі 4% маладых людзей. Вось чаму так важна засцерагчы чалавека ад гэтай згубы менавіта ў падлеткавым узросце. Але як?

Аб шкоднасці курэння мы шмат гаворым і пішам. Напэўна, кожны, хто трымае ў зубах папяросу, ужо ведае: тытунёвы дым адмоўна ўплывае на органы дыхання, на сардэчна-сасудзістую сістэму, на органы стрававання, на залозы ўнутранай сакрэцыі. Менавіта ён з'яўляецца прычынай хранічных запаленняў бронхаў і лёгкіх, часта выклікае гіпертанію, прыступы стэнакардыі, нават інфаркты, даводзіць да гастрытаў і язвеннай хваробы. Цяпер ужо ўсе ведаюць, што ў тытунёвым дыме змяшчаюцца і канцэрагенныя рэчывы, а гэта з'яўляецца адной з прычын рака лёгкіх, павялічвае рызыку захворвання ракам языка, гартані, страўніка, мачавога пузыра... Вось факты: сярод хворых на язву страўніка курцы складаюць 98%. Смяротнасць ад рака лёгкіх сярод курцоў у пяць разоў, а ад сардэчна-сасудзістых захворванняў удвая вышэйшая, чым сярод тых, хто ўсцярог сябе ад гэтай згубнай звычкі. Даказана, што аматары папяросы жывуць у сярэднім на пяць—шэсць гадоў, а заядлыя курцы нават на дзесяць гадоў менш за тых, хто не курыць.

І правільна непакоіцца маці за сваё маленькае дзіця, якое знаходзіцца ў тым жа памяшканні, дзе старэйшы брат можа зацягнуцца папяросным дымам. Мы ведаем — і ўсе павінны гэта ведаць! — знаходжанне цяжарнай жанчыны ў задымленым пакоі атручвае яе дзіця, якое яшчэ і на свет не нарадзілася. Такія дзеці з'яўляюцца нявіннымі ахвярамі „прымусовага курэння”. Прымусовага — бо курыць іхні бацька, а то і маці. А дзеці (і дарослыя таксама), якія знаходзяцца ў пакоі, дзе цешацца папяросай іншыя, называюцца „пасіўнымі курцамі”. Згубнасць амаль адна і тая ж. Але...

Помню, калі ў старшакласнікаў і ў навучэнцаў прафесіянальных школ спыталіся, ці ведаюць яны аб шкоднасці курэння, яны ў большасці сваёй адказалі: „Ведаем”. І ў той жа час на пытанне: „Ці хочаш адвыкнуць ад гэтай згубнай звычкі?” пачулі ў адказ: „Не”. Выходзіць, пакуль гром не грымнуў, яго не баяцца? Ні дарослыя, ні падлеткі, ні хлопцы, ні дзяўчаты. Але ж ён грымне! Сэрца падасць свой грозны сігнал. Дык чаму ж было не зразумець гэта напачатку?

А напачатку чуем вось што: „Закурыўшы, адчуваю сябе больш упэўненай, свабоднай, больш дарослай, — гаворыць 15-гадовая дзяўчынка. — Папяроса дапамагае мне ўстанавіць сяброўскія кантакты з равеснікамі, з'яўляецца лякарствам ад маёй нясмеласці...”

Разумееце? Лякарствам! Проста жах бярэ: атруту яна называе лякарствам.

А паслухайце, што гаворыць шаснаццацігадовы юнак: „Я закурыў першую цыгарэту таму, што баяўся, як агню, мянушкі „мамчын сынок” або „шчанюк”. Адчуў сябе кепска, закружылася галава, пяршыла ў горле. Але адставаць ад сяброў не хацелася. Паступова выкураных цыгарэт станавілася ўсё больш і больш...”

Самасцвярджэнне праз цыгарэту... Як жа будуць шкадаваць потым гэты юнак і тая дзяўчына! Бо з кожнай цыгарэтай мацнела згубная звычка.

Быў час, калі вучня, злоўленага з папяросай у зубах, кляймілі ганьбай, нават выключалі са школы. Але і гэта не давала станоўчых вынікаў. Бо рашаючай была і застаецца сіла прыкладу. Многія падлеткі прызнаюць, што да тытунёвага дыму яны прывыклі змалку ў сем'ях, дзе шмат кураць бацька або маці ці абое разам. Таму ўяўленне аб дарослсці ў іх яшчэ з дзяцінства асацыіравалася з курэннем. Такі хлапчук (а то і дзяўчынка) пацягнецца да цыгарэты вельмі рана.

Як жа павінны паводзіць сябе бацькі, каб утрымаць дзяцей ад курэння? Перш за ўсё, калі бацькі самі кураць, няхай пастараюцца любым чынам пазбавіцца ад гэтай шкоднай прывычкі. Калі ўжо не шануеце ўласнае здароўе, дык пабярэжыце здароўе свайго дзіцяці. І калі задумалі кінуць курыць, не хавайце ад сына сваіх пакут, барацьбы з самім сабой і радасці ад перамогі. Хай ведае, як цяжка пераадолець шкодную звычку. Старайцеся расказаць яму, нават дашкольніку, аб яе згубнасці. Менавіта ў дашкольным і малодшым школьным узросце дзіця надае найбольшую вагу вашай думцы, вашаму перакананню. І чым больш унушальна перададзім мы дзецям свае погляды, тым большую ролю адыграюць яны ў іхнім жыцці.

Нават калі хлапчук перакананы, што ўсе дарослыя кураць, старайцеся прывесці ў прыклад людзей, якія пазбавіліся ад гэтай згубнай прывычкі. Не бойцеся лішні раз нагадаць, якім цяжкім захворванням падвяргаюць сябе курцы, колькі іх робіцца інвалідамі, колькі памірае ад рака. Няхай кожнае дзіця расце ў перакананні, што кураць толькі тыя людзі, каму своечасова не адкрылі вочы на ўвесь аб'ём шкоднасці гэтай учэпістай звычкі, або тыя, у каго не хапае сілы волі, каб пазбавіцца ад яе.

Калі не дапамагаюць вашы перакананні, заручыцеся дапамогай каго-небудзь з тых, хто карыстаецца ў падлетка неабвержным аўтарытэтам і сімпатыяй. Выкарыстайце гэты аўтарытэт. Здараецца, што падлетка лепш за ўсё пераканае расказ пра спартсмена, які страціў шанцы на перамогу таму, што не кінуў курыць. Бывае і так: дзяўчыну, якую не спалохала гутарка пра цяжкія хваробы, што пагражаюць курцам, больш за ўсё ўразіла заўвага, як змяніўся прыгожы колер яе твару, знік бляск вачэй, агрубеў голас...

Але не забывайце, што падлеткі знаходзяцца ў цяжкім перыядзе палавога выспявання. Да іх трэба ставіцца як да дарослых і адначасова сачыць за імі, як за дзецьмі, з добразычлівасцю і цярпеннем. На іхнія капрызы і заскокі глядзіце з гумарам, не надаючы значэння дробязям, але размаўляйце як з дарослымі аб такіх сур'ёзных пытаннях, як, напрыклад, курэнне. Размаўляйце і паказвайце асабісты прыклад. Толькі тады размовы гэтыя прынясуць жаданы вынік.

**Г. ВЯРЭНІЧ**

# ШКЕЛЬЦЫ

*(Працяг з папярэдняга нумара)*

**2**

## ФОСФАРНЫЯ СЛУПЫ

Па могілках мы хадзілі як па самым звычайным месцы. Не ведаючы сумненняў, елі буйныя суніцы і маліны, што раслі на ўзгорку, хлопцы валаклі саржавелыя крыжы, якія даўно забыліся, хто і дзеля каго іх ставіў... У густых шатах дрэў жылі і вароны, але іх было не так многа, як на іншых могілках, якія не ведалі дзіцячай мітусні. Але ноччу... Ноччу могілкі жылі сваім жыццём. Ноччу да іх вярталася таемнасць, той салодкі жах, што ў дарослых робіцца жывёльным. Пэўна, гэты жах прымушае людзей апаганьваць могілкі, напівацца над чужым страшным тлом, выкалупваць з помнікаў выцвілыя медальёны — абы прынізіць самую думку аб тым, што некалі і твае вочы глянуць так бездапаможна з фоткі, прыкутай да стандартнага бетоннага айсберга... Не толькі ў сярэднявеччы страх смерці прымушаў людзей скакаць, крыўляцца і блюзнерыць.

У аповядах — „жахалках”, што расказваліся ў нашай спальні кожную ноч, не апошняе месца займалі „фосфарныя слупы”, якія ўзнікалі над магіламі, маглі рухацца — „хадзілі”, і калі даганялі выпадковага прахожага... Асабліва прыцягвала ў гэтым сюжэце дваістасць, рэальнасць фосфарнага свячэння і казачнасць месца. Што такое фосфар, мы ведалі. Наш аднакласнік прывёз з дому пашкоджаную фасфарасцыруючую статуэтку арла — інтэр'ерная мода 60-х. Хлопцы растаўклі яе на кавалкі, і амаль кожны з класа займеў аскалёпак. Варта было пакласці белы каменьчык у далоні, скласці іх лодачкай і зазірнуць у „ваконца” між вялікіх пальцаў — і адтуль з прыцемку глядзела зялёнае нядобрае вока, халодны агонь могілак.

Хлопцы даўно казалі, што бачылі „фосфарныя слупы”. І мы, дзяўчаты, па начах ўглядаліся ў цёмнае месіва галін пад вокнамі нашай спальні і, здаецца, таксама бачылі... Нешта свяцілася, туманілася, рухалася ці то на яве, ці то ў сне... Цемным лістападаўскім вечарам мы ўгаварылі малодшую з дваіх нашых выхавацелек ісці глядзець таямнічую з'яву. Могілкі займалі пагорак, што збягаў ад самага фундамента спальнага корпуса. Выхавацелька ў атачэнні павіскваючых дзяўчат спускалася па зацярушанай ігліцай сцежцы, хлопчыкі беглі наперадзе і па баках, пасвечваючы ліхтарыкамі. Ліхтары ў начным лесе — відовішча фантастычнае і трывожнае.

— Фосфарны слуп ідзе! — закрычаў былы вучань балетнай школы Гарбуноў. Наперадзе затрашчалі кусты... У падобныя хвілі чамусьці многія апаноўвае дзікі смех. Рагочучы, мы кінуліся ўцякаць. Спыніліся там, дзе з вокнаў школы падаў на зямлю яркі квадрат святла. Праз могілкі дыбала кампанія мясцовай моладзі — узяўшыся пад рукі, недарэчнай доўгай шарэнгай. „Бандыты!” — сцяліся мы. Кінулася ў вочы дзяўчына, што ішла пасярэдзіне — у кароткай белай сукенцы і белых бліскучых ботах-панчохах.

— Хутчэй у корпус! — задыхаючыся, скамандавала выхавацелька. У тую ноч мы доўга не спалі, дзелячыся сенсацыйнымі навінамі. Нехта чуў, як дырэктар школы выклікаў міліцыю, нехта бачыў у вестыбюлі саміх міліцыянтаў, нехта чуў, як „бандыты” гразіліся нас зарэзаць...

Але таямніца фосфарных слупоў засталася таямніцай, за што я ўдзячная Богу.

*(Працяг у наступным нумары)*

**ЛЮДМІЛА РУБЛЕЎСКАЯ**

# КРЫЖАВАНКА

| ■ | А | Б | В | Г | Д |
|---|---|---|---|---|---|
| I | | | 1 | | |
| II | | ■ | 4 | ■ | |
| III | | | 3 | | |
| IV | 5 | ■ | 6 | ■ | |
| V | 2 | | | | 7 |

I — фабрыка, III — харчовы тлушч, які атрымоўваецца ў выніку збівання смятаны, V — сакавіты плод некаторых раслінаў.

А — наша планета, В — меншая ад мястэчка, Д — размова для пастаноўкі на сцэне.

Літары з пазначаных клетак складуць рашэнне — назву мнагаколернай атмасфернай з'явы.

Адказаў чакаем два тыдні.

**Адказ на лагагрыф з 52 н-ра:**

„З Новым годам”.

Узнагароду высылаем **Андрэю Астапчуку** з Бельска-Падляшскага, вучню „тройкі”.

# ДОБРЫ ДЗЕНЬ, ДАРАГАЯ ЗОРКА”!

Пішуць табе вучні III „б” класа Пачатковай школы ў Орлі. Мы вельмі цешымся, што ў нашай новай прыгожай школе ад пачатку снежня адкрыты кабінет зубнога лекара. У ім заманціравана сучаснае тэхнічнае абсталяванне. Шчыра дзякуем войту гміны пану Міхалу Іванчуку, дырэктару ЗОЗ у Бельску-Падляшскім Аляксандру Мадзалеўскаму, Гміннай радзе ў Орлі, Бацькоўскаму камітэту пры нашай школе, а таксама Сельскагаспадарчаму кааператыву ў Крывяцічах. Іх фінансавая дапамога дазволіла не толькі нам, але і нашым настаўнікам і працаўнікам сістэматычна лечыць зубы.

**ВУЧНІ**

# МАЛЫ ЯНКА

Малы Янка затрымлівае на вуліцы аўтамашыну.

— Прабачце, ці не маглі б вы мяне падвезці ў школу?

— На жаль, мілы хлопча, я еду ў адваротным напрамку.

— Гэта нічога, нават яшчэ лепш!

**А. Гаўрылюк**

„Дзе Рым, дзе Крым...”

# ЯН ЧЫКВІН НА ВЕЧАРЫ Ў СЛЯНДЗІНСКІХ



Партрэт паэта з жоўтай ружай.

20 студзеня г.г. Ян Чыквін запрасіў чытачоў на сустрэчу са сваёй творчасцю ў Галерэю Сляндзінскіх (Гарадскі музей; дарэчы, гэты адрас не забывайце: Беласток, вул. Варынскага, 24 „а”, куды варта зайсці хоць бы на цыкл сустрэчаў п.з. „Чацвяргі ў Сляндзінскіх”). З прыемнасцю мы, „старыя” „белавежцы”, заўважылі прысутнасць немалой групы беластоцкай моладзі.

На спатканне, якое вяла Тэрэса Занеўская, прыйшло шмат людзей, зацікаўленых мастацтвам і паэзіяй. На пачатку, з невялікай падборкай вершаў у перакладах на польскую мову Мар'яна Юркоўскага, Альжбеты Фэліксяк і Яна Леаньчука і выказванняў аўтара, пры музыцы выступілі акцёры Лялечнага тэатра ў Беластоку. Тэрэса Занеўская вяла сустрэчу ў новым, своеасаблівым стылі: задавала паэту пытанні, на якія ён стараўся поўнасцю і шчыра адказаць. Датычылі яны, м. інш. істоты творчасці, паўставання верша, матываў, уплыву дзяцінства. Зала актыўна ўключылася ў размову. Вельмі цікавым і глыбокім было выказванне адной з маладых мастачак, якая сцвердзіла, што мастацтва і самая творчасць вядуць да дабра, дасканаляць душу як тварца, так і таго, хто мастацтва ўспрымае.



Мы, старыя "белавежцы"... (С. Яновіч і В. Петручук)

Ян Чыквін чытаў таксама свае творы, а ягоная інтэрпрэтацыя напрыклад верша пра вяз (па-польску і па-беларуску) была не горшая, а нават больш цікавая, чым прафесіяналаў-акцёраў.

Адзначыць трэба вельмі добра падрыхтаваную „рэкламоўку” Яна Чыквіна — невялікі буклет з інфармацыяй пра яго творчасць, ягонымі выказваннямі на тэму Малой Айчыны — Дубіч-Царкоўных, „нараджэнне” паэзіі, з вершам у перакладзе Крыстыны Канэцкай, у густоўнай графічнай апрацоўцы Здзіслава Цыпэльта (ён жа афармляў некалькі кніг з „бібліятэкі „Белавежы”).

(л)

Фота М. Лукшы

# ЯК СПЯВАЕ „КАЛІНА”

Жанчыны з Дашоў, што ў Кляшчэлеўскай гміне, кажуць, што спявалі ўсё сваё жыццё, з маленства. Але пачатак свайму калектыву вызначаюць на 1978 год. Тады пачалі арганізавацца (усё пачалося з дуэту Валянціна Міцэвіч і Соф'я Кердалевіч), ездзіць на агляды „Беларускай песні”. Спяваюць яны цудоўныя родныя песні, заварожваюць слухачоў і мілагучнасцю, і зладжанасцю галасоў. У іх выкананні гучаць, перш за ўсё, старыя мясцовыя песні, наш багаты фальклор.

У 1988 годзе ўрачыста адзначалі 10-годдзе свайго ансамбля. Тады менавіта і назваліся „Калінай”.

Кіраўніком калектыву з'яўляецца Валянціна Міцэвіч. Спяваюць у ім: Соф'я Кердалевіч, Ніна Міцэвіч, Ядвіга Пташынская, Надзея Рошчанка, Марыя Рошчанка, Еўдакія Маркевіч. У „Каліне” раней спявалі і мужчыны, між іншым Міраслаў Місяюк, Міхал Насковіч і Крыштафор Беляшко.

Сімпатычныя, вясёлыя спявачкі кожны год удзельнічаюць у конкурсе „Беларуская песня”, пабывалі ў Вэнгажэве, Саноку і ў Казімежы-Дольным над Віслай, не лічачы ўжо выступленняў у блізкіх Кляшчэлях, Чаромсе ці Сямяцічах. Выязджалі таксама за мяжу: у Менск і ў Луцк (Украіна). І да іх прыязджалі з рэвізітам спевакі з Беларусі і з Украіны.

На аглядзе „Беларуская песня '89” „Каліна” выступіла ўжо ў новых прыгожых касцюмах, падрыхтаваных у Менску. І гэта якраз тое! Выгляд самадзейных артыстаў мае таксама немалаважнае значэнне. Калі такі хор уваходзіць на сцэну, ён расквітае шматколерным карагодам. Ансамбль прадстаўляў тады старыя мясцовыя песні, спяваныя на мясцовым дыялекце і ў арыгінальнай форме — без ніякай апрацоўкі і без акампанементу.

І вось 1994 год... 14 студзеня „Каліна” сквткавала 15-годдзе свайго існавання. Была нагода ўспомніць тыя мастацкія выступленні, якія надоўга застануцца ў памяці. А было іх шмат. Варта прыгадаць, што без іх не абышліся розныя мясцовыя культурна-забаўляльныя і абрадавыя мерапрыемствы.

Госцем юбілейнай урачыстасці быў віцэ-консул Генеральнага консульства Рэспублікі Беларусь у Беластоку Ігар Хадасевіч. „Каліна” атрымала многа віншаванняў, многа слоў падзякі і прыгожых кветак, між іншым, ад Беластоцкага ваяводы Станіслава Пруціса, старшыні Галоўнага праўлення БГКТ Яна Сычэўскага, бурмістра Кляшчэляў Аляксандра Сяліцкага, дырэктараў: Ваяводскага асяродка анімацыі культуры — Казімежа Дэркоўскага, Дома культуры ў Бельску-Падляшскім — Сяргея Лукашука, Дома культуры ў Гайнаўцы — Мікалая Бушко, Асяродка культуры ў Кляшчэлях — Эдыты Фурас-Махонь ды ад фальклорных калектываў з Гарадка і Дабрывады.

У той вечар у мясцовай святліцы сабралася як ніколі народу. Тут з канцэртамі выступілі юбіляркі з Дашоў і мяшаны ансамбль Дома культуры ў Гайнаўцы. Выступілі цудоўна! Мігам праляцеў доўгі студзеньскі вечар. Трэба было развітвацца...

... А ўжо — усяго праз адзін дзень — 16 студзеня на сцэне Гміннага асяродка культуры ў Чаромсе зноў выступіла „Каліна”! З калядными песнямі, са звяздой. Яе запрасілі на „Ваяводскую сустрэчу калядоўшчыкаў'94”, якая менавіта тут адбывалася. Для калектыву была гэта прыемная неспадзяванка з нечаканай хуткай чарговай сустрэчы.

Многае лета Табе, „Каліна”, жадае ўвесь рэдакцыйны калектыў „Нівы”.

ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ

# Музей і што далей

Расказвае КАНСТАНЦІН МАЙСЕНЯ

☛ Працяг са стар. 1

*— Сярод беларусаў малодшага пакалення існуе перакананне, што самі беларусы прыклалі руку да ліквідацыі Беларускага музея ў Белавежы. Колькі ў гэтым праўды?*

**Канстанцін Майсеня**: — Няма ў гэтым праўды. Гэта тадышнія ўлады давялі да ліквідацыі музея. Афіцыйнае становішча ў гэтай справе было такое, што будынак неадпаведны, а экспанаты надта ж вартасныя. Для БГКТ абяцалі, што экспанаты ў новым месцы будуць мець двухмоўныя надпісы. Так, аднак, не сталася.

*— Ці можна неяк канкрэтызаваць тыя ўлады?*

**К. Майсеня**: — Нашы, у той час, апякунскія ўлады, тут усё ясна.

*— Які цяпер шанц на тое, каб тыя 1350 экспанатаў вярнуць у Гайнаўку?*

**К. Майсеня**: — Быў я год таму са старшынёю ГП БГКТ Я. Сычэўскім у ломжынскага ваяводы. Справу вяртання экспанатаў абяцаў ён палагодзіць з дырэктарам музея ў Цеханоўцы (там жа знаходзіцца галоўная частака нашых экспанатаў). Дырэктар аднёсся да гэтага адмоўна. Гэтак было год таму — актуальна будова набліжаецца да канца і я перакананы, што экспанаты ў Беларускі музей вернуцца.

*— Ці не лічыце, што пабудова такога маштабнага аб'екта ў Гайнаўцы — стратэгічная памылка? Гайнаўка, хіба, надта ж малы асяродак, каб утрымаць Музей.*

**К. Майсеня**: — Музей мае сваю дакументацыю, якая складалася спецыялістамі. Кожны квадратны метр Музея прадугледжаны для нармальнага функцыянавання ўстановы. Музей, акрамя сваёй галоўнай мэты, мае таксама выконваць ролю асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы. Пры Музеі арганізаваўся клуб бізнесмена — намерваемся разгарнуць тут гаспадарчую і турыстычную дзейнасць. Калі гаварыць пра горад Гайнаўку, то трэба сказаць, што моладзь урэшце будзе мець куды дзецца — у Музеі будуць кіно і кавярня.

*— Ці ёсць праект забеспячэння Музея з навуковага боку?*

**К. Майсеня**: — Прадбачваю, што тут узнікне інстытут беларусазнаўства. Хацелася б мне, каб Музей згуртаваў усе беларускія асяроддзі — калі маюць быць ужо нейкія спрэчкі, то хай вядуца на навуковыя тэмы.

*— Дапусцім, што пабудова завяршаецца — што далей з Музеем у юрыдычна-фармальным сэнсе?*

**К. Майсеня**: — Ёсць статутныя магчымасці арганізаваць дзейнасць і забяспечыць утрыманне Музея. Калі ўзяць пад увагу ўклад дзяржавы ў пабудову музея і грамадскую ангажаванасць, то можна лічыць, што музей будзе развівацца.

Гутарыў А. МАКСІМЮК

# СУМНАЯ НАША РЭЧАІСНАСЦЬ

Прачытаў я ў „Ніве” н-р 3 фрагмент справаздачы Анны Кавальскай, перадрукаваны з часопіса „Styk”, з апошняга пленума ГП БГКТ. Гаварылася там, што ўзрастае зацікаўленне беларускай мовай на Беласточчыне. Вядома, уцешыўся я такой інфармацыяй, але зараз падумаў: „Але дзе гэта відаць, адкуль такія высновы?” Дзесьці прачытаў я, што БГКТ налічвае 6 тысяч членаў, а некаторыя дзеячы арганізацыі гавораць, што „Ніва” друкуецца толькі ў 500 экземплярах. Для мяне ўсё тут незразумелае. Значыць, актывісты не чытаюць па-беларуску, а падчас парламенцкіх выбараў не галасавалі на шэфа сваёй арганізацыі, які атрымаў каля 200 галасоў. А можа гэтыя члены такія самыя, як „дэлегат Гайнаўскай зямлі”, які апісаў свае ўражанні са з'езда БГКТ у „Ніве” н-р 27 (1993), але баяўся падпісаць іх сваім прозвішчам, каб „дурань Панфілюк не прычапіўся”? Купляць газету або галасаваць у выбарах, здаецца, яшчэ нічым не пагражае!

Калі так думаю пра „нашых людзей”, тады горыч проста разрывае грудзі. Якая наша духоўная беднасць! Ніякага зацікаўлення сваёй мовай, культурай, гісторыяй. Працоўны пісьманосцам, маю нагоду назіраць за гэтым штодзённа. Здавалася б, калі нясу ў пятніцу „Ніву”, людзі павінны яе чакаць, з рук вырываць, бо яна наша! Але дзе там! Упершыню кожнага трэба заахвочваць, каб купіў. Ведаю, што большасць пісьманосцаў у нашых гмінах таксама абыякава ставяцца да роднага, так як і жыхары вёсак. Я без праблемы прадаю некалькі дзесяткаў экземпляраў „Нівы”, але трэба было на гэта працаваць некалькі гадоў, а перш за ўсё хацець гэта рабіць. Шкада, што такая сумная наша рэчаіснасць. Шкада!

М. ПАНФІЛЮК

 

# ПРЫМАТ РЫМСКІХ ПАПАЎ
## І ПОГЛЯДЫ НА ПРЫМАТ ПАПЫ РЫГОРА I ВЯЛІКАГА (590-604)

За панавання рымскага імператара Канстанціна Вялікага хрысціянская Царква была падзелена на тры незалежныя вялікія патрыярхаты, пастаўленыя ў наступнай іерархічнай чарговасці: Рым, Александрыя і Антыёхія. Рым увесь час стараўся атрымаць прымат, а нават падпарадкаваць усіх хрысціян і таму ўжо з II стагоддзя пачалі паяўляцца ў лацінянаў розныя тэорыі на тэму першаснасці Рыма. Тады распаўсюджвалася легенда, што ап. Пётр быў першым рымскім папам і праўдападобна тады нейкі манах дапісаў у Евангеллі паводле Мацвея сціх 16: 18-19, дзе быццам бы Хрыстос назначыў ап. Пятра кіраўніком калегіі апосталаў. Паміж Рымам і іншымі гарадамі Усходу былі вялікія адлегласці, дрэнная сувязь, асабліва зімой і вясной, пашыраліся забабоннасць і брак крытыкі сярод хрысціянскіх гісторыкаў. Хрысціянскае духавенства на Усходзе паверыла ў легенды і фальсыфікаты, якія выходзілі з Рыма. Рым даказваў, што ён апынуўся на першым месцы таму, што яго Царкву заснавалі ап. Пётр і Павел, але самі лічылі, што Александрыя стаіць вышэй за Антыёхію, хаця Царкву ў Антыёхіі заклажыў ап. Пётр, а ў Александрыі — толькі св. Марк. Рым быў на першым месцы, бо быў сталіцай імперыі. Александрыя была другім горадам па велічыні, важнасці і багацці. Сітуацыя змянілася, калі паўстала новая сталіца Рымскай Імперыі — Канстанцінопаль. Епіскапа Новага Рыма павысілі ў сан патрыярха і атрымаў ён юрысдыкцыю коштам Рыма і Антыёхіі. Другі Сабор у Канстанцінопалі ў 381 г. у 3 каноне даў патрыярху Канстанцінопаля другое месца ў іерархічнай чарзе пасля Рыма і пачэсны прымат сярод усходніх Цэркваў. Чацверты сабор у Халкідоне ў 451 г., на якім прысутнічаў сам рымскі папа, у 28 каноне зацвердзіў правы канстанцінопальскага патрыярха, а ў каноне 9 і 17 пастанавіў, што самым вышэйшым юрыдычным інстытутам сярод хрысціян будзе канстанцінопальская патрыярхія. У 9-м каноне пішацца: „Калі епіскап ці свяшчэннік не згаджаецца з мітрапалітам правінцыі, ён павінен скласці скаргу экзарху епархіі ці патрыярху Канстанцінопаля". Дэлегаты Рымскага папы Льва I (460-461) запратэставалі толькі супраць „такім самым прывілеям" у іерархічнай чарговасці, які мае папа Рыма, аднак невядома, ці адкінулі апеляцыйныя правы Новага Рыма. Халкідонскі сабор павысіў Іерусалім да становішча патрыярхата. Рым таксама пратэставаў, але па іншых прычынах: Іерусалім лічылі святым горадам, бо там вучыў Ісус. Яго Царква была ўстаноўлена ап. Якубам, братам Хрыста па маці, якога, а не ап. Пятра, лічылі паводле Евангелля кіраўніком усёй Хрысціянскай Царквы. Рым сцвярджаў, што Іерусалімская Царква перастала існаваць у 70 г., пасля знішчэння горада легіёнамі Ціта, калі ўпала яе значэнне. Але пасля спрэчак Рым прызнаў іерусалімскі патрыярхат. Імператар Юстыніян у сваім „Кодэксе" назваў Канстанцінопальскую Царкву „галавой усіх цэркваў". Пацвердзіў ён гэта, аддаўшы канстанцінопальскаму патрыярху кіраўніцтва на 5-м Саборы ў 553 г., які кінуў анафему (праклцце) на рымскага папу Вергілія. Гэта паўстрымала прэтэнзіі рымскіх папаў да прымату. У 589 г. патрыярх Канстанцінопаля Іаан Постнік (582—595) прыняў званне ўсеагульнага патрыярха. Пачаткова супраць гэтага запратэставаў папа Пелагій II (579—590), а пасля Рыгор I (590—604), названы Вялікім. У пратэсце аднак няма прэтэнзіі да прымату і да незаконных пастулкаў патрыярха. Рыгор I нават адкінуў званне ўсеагульнага папы (papa universalis), да прынцця якога яго намаўлялі. Ён пісаў: „Хай ніводзін з маіх наступнікаў не жадае звання ўсеагульнага папы, бо, калі нейкі патрыярх прысвоіць сабе званне ўсеагульнага айца, то годнасць патрыярха не будзе заслугоўваць даверу. Таму няхай хрысціяне не прысвойваюць такога звання, якое выклікае недавер". („Пісьмы Рыгора", кніга 5, пісьмо 5).

Рыгор I лічыў сябе адным з пяці раўнапраўных патрыярхаў. Ён назваў сябе „Слугай Божых слуг" (servus servorum Dei). Пасля яго смерці пачалі змяняць значэнне гэтых слоў у фальшывым духу, быццам яны не азначаюць пакоры, а самае высокае адрозненне. Папа рымскі не меў тады прымату юрысдыкцыі на ўвесь хрысціянскі свет і таму ён востра выступіў супраць прымату. Ён бачыў крыніцу прымату ў наследаванні д'ябла Люцыпара. Рыгор пісаў: „Хто не бачыць у тым двудушным званні (усеагульнага патрыярха) наследавання вядомага спакон веку ворага, які пагарджаючы атрадамі Анёлаў стараўся ўзабрацца на вяршыню выключнасці, каб стаць нікому непадпарадкаваным і быць над усімі начальнікам". Папа Рыгор I выступаў супраць тых, якія прымат Рыма матывавалі тым, што Царкву ў Рыме заснаваў ап. Пётр. Ён пісаў: „Пётр і Павел атрымалі першую пасаду ў Царкве, але нельга разумець гэтага так, быццам бы яны былі галовамі Святой Усеагульнай Царквы. Зусім не. Яны былі толькі Яе членамі і таксама як Іаан і Андрэй — толькі праваднікамі хрысціянскіх абшчын, бо ўсе святыя перад Законам, паводле Закону з'ўяўляюцца целам Хрыста і членамі Царквы пад адной галавой — Ісусам Хрыстом". Далей напісаў ужо няпраўду: „Рымскаму епіскапу на Халкідонскім Саборы ў гонар ап. Пятра было ахвяравана званне ўсеагульнага епіскапа". У актах Сабора такой пастановы няма. Мажліва, што папу нехта даў фальсіфікаты лацінянаў. Аднак папа Рыгор сцвердзіў: „Ніводзін з рымскіх епіскапаў гэтага звання да гэтай пары не выкарыстаў". Маем тут выразнае абвяржэнне прымату рымскага папы з вуснаў аднаго вельмі папулярнага рымскага папы ў канцы VI і на пачатку VII стагоддзяў. Каталіцкі Касцёл аднёс Рыгора I да ліку чатырох Вялікіх Дактароў г. зн. лацінскіх тэолагаў, хаця ён ніколі тэолагам не быў. Рыгор I ведаў толькі латынь і то народную, без граматычных правіл. Ён сцвярджаў, што нельга аналізаваць розумам справы веры. Багатую рымскую бібліятэку на Палаціне загадаў спаліць, каб язычаскія погляды не муцілі ў галовах хрысціян. Ад яго пачалі нішчыць у Каталіцкім Касцёле грэчаска-рымскую літаратуру. Ён пісаў вельмі многа і з'яўляецца аўтарам „Маралі" — твора ў 35 кнігах, абапертага на „Кнізе Іова". Сем сыноў Іова Рыгор I лічыў за сем кардынальных дабрачыннасцей і за 12 апосталаў, бо 7 = 3 + 4, а 3 х 4 = 12. Ён напісаў збор легенд аб розных святых пад назвай „Дыялогі аб жыцці і цудах італьянскіх айцоў і несмяротных душ". Змясціў ў ім легенды, у якія верылі тады цёмныя хрысціяне заходняй і сярэдняй Еўропы. З імем Рыгора I звязаны т. зв. касцельныя грыгарыянскія спевы. Рыгор I выкарыстаў войны паміж лангабардамі і Візантыяй, каб стаць незалежным ад свецкай улады, далучыў Касцёлы Іспаніі і Англіі да Рыма. Незалежна ад псеўданавуковасці Рыгора I, яго маральнае аблічча, характар і адносіны да людзей выклікаюць поўную пашану. На жаль, яго навука на тэму прымату пасля яго смерці не была наступнымі рымскімі папамі ўзята пад увагу. Каб давесці прымат папства, у 750 г. стварылі фальсіфікат т. зв. „Эдыкт імператара Канстанціна да папы Сільвестра", на якім будавалі папскі аўтарытэт да XIX стагоддзя. Пажадлівасць улады рымскіх папаў давяла да крыжовых паходаў, якія так разбурылі Візантыю, што яна пасля стала лёгкай здабычай для туркаў. Крыжаносцы ўводзілі хрысціянства мячом і агнём па загаду папаў і ў Прусіі, і на Літве і нападалі на рускія княствы, а таксама на Польшчу. Уводзячы хрысціянства ў Паўднёвай Амерыцы іспанскія канкістадоры амаль поўнасцю выбілі мясцовае насельніцтва. А што ў часы рэфармацыі тварыла інквізіцыя? А унія? А цяперашняя вайна паміж харватамі і сербамі?

**Д.ШАТЫЛОВІЧ**

# БЛАЖЭННАЯ КСЕННЯ ПЕЦЯРБУРГСКАЯ

Святая Ксення нарадзілася ў I палове XVIII стагоддзя. Дасягнуўшы паўналецце яна пабралася шлюбам з прыдворным харыстам і стала жыць у Санкт-Пецярбургу. Неўзабаве памёр яе муж і Ксення асталася ўдавой. Пасля такога няшчасця вырашыла яна пакінуць усё зямное і ахвяраваць сябе Богу. Усю сваю маёмасць раздала бедным, а дом падаравала сваёй блізкай знаёмай.

Вызваліўшыся ад штодзённых зямных спраў і турбот, уступіла яна на цяжкі шлях юрадства *) дзеля Хрыста. У гутарковай мове сталі яе называць юрадзівай. Апранулася яна ў адзенне мужа і пачала ўсіх пераконваць, што ён, Андрэй, жыве, а памерла ягоная жонка Ксення. Адзывалася яна толькі тады, калі звярталіся да яе іменем ейнага мужа. Бадзялася яна па горадзе, не мела пастаяннага месца пражывання. Людзі часта насміхаліся над ёю, але яна пакорліва пераносіла ўсё гэта. Аднойчы група хлапчукоў нават абкідала яе граззю і камянямі. Памалу ўсе звыкліся з яе дзівачным спосабам жыцця і штораз больш людзей сталі лічыць яе Божай угодніцай.

Блажэнная Ксення не прымала ад людзей нават цёплай вопраткі, толькі хадзіла ў сваім паношаным адзенні. Большасць свайго жыцця насіла яна на сабе зялёны кафтан і чырвоную спадніцу, або наадварот — чырвоны кафтан і зялёную спадніцу, бо такія былі колеры абмундзіравання яе мужа. Ні за



што не хацела яна памяняць сваё рыззё на лепшую вопратку. З пададзенай міласціны брала толькі „цара на кані" — капейкі з выявай конніка — і аддавала іх іншым беднякам.

Бадзяючыся цэлымі днямі па вуліцах, час ад часу заходзіла яна да знаёмых паесці і пагутарыць, а потым зноў падавалася ў сваё няспыннае вандраванне. Ночы, нягледзячы на надвор'е, заўсёды праводзіла яна ў полі, дзе малілася на каленях і рабіла паклоны ў чатыры бакі свету. У розны спосаб дапамагала людзям. Аднойчы рабочыя, якія будавалі царкву на Смаленскім могільніку, сталі зранку знаходзіць на рыштаваннях вялікія колькасці цэглы. Толькі па нейкім часе яны прыкмецілі, што гэта Блажэнная Ксення ноччу насіла цэглы і такім чынам памагала ім.

За яе самаахвярнасць і пакуты Гасподзь надзяліў Ксенню дарам чытання ў сэрцах людзей і прадказвання будучыні. Многа разоў здаралася такое, што людзей, якіх яна наведвала, сустракала шчасце — адны знаходзілі працу, у другіх наступала сямейная згода, іншым пачынала лепш жыцца. Асаблівую ласку атрымоўвалі тыя, якіх Ксення абдорвала сціплымі падарункамі.

Памёрла Ксення амаль у 70-гадовым узросце ў пачатку XIX стагоддзя і была пахавана на Смаленскім могільніку ў Санкт-Пецярбургу. Над яе магілай здзяйсняліся шматлікія выздараўленні, якія былі знакам Божай любові. Блажэнная Ксення заступалася перад Госпадам за тых, якія з малітвай і слёзамі прасілі ў яе падтрымкі і дапамогі. З часам над яе магілай паставілі капліцу, якая існуе да сённяшняга дня.

Да месца, дзе пакоіцца прах Блажэннай, з усёй Русі прыбывалі і далей прыбываюць многія паломнікі. Пасля рэвалюцыі бальшавікі, імкнучыся агань-баваць гэтае месца, вырашылі ў капліцы ўстанавіць скульптуру Леніна, аднак вернікі выкінулі яе і ў выніку двух маладых мужчын пайшлі на пяць гадоў у турму. Бязбожныя ўлады ні ў які спосаб не змаглі заглушыць у народзе памяць аб угодніцы Божай Блажэннай Ксенні і загарадзіць доступ да яе магілы. Мог я сам асабіста пераканацца ў гэтым, будучы некалькі разоў на Смаленскім могільніку ў Санкт-Пецярбургу.

Памяць Блажэннай Ксенні ўшаноўваем 6 лютага (24 студзеня па старому стылю).

**С. Н.**

---

*) **юрадства** — *сімуляванне шаленства, адступнасці розуму, вонкава парадаксальная форма аскетызму, службы Богу; юрадзівы чалавек хоча такім чынам удзельнічаць у прыніжэнні і пакутах Хрыста, каб такім шляхам замацоўваць у сабе пакорлівасць і развіваць стойкасць хрысціянскага духа, які спалучае яго з прыніжаным, але міласэрным Збавіцелем (тлумачэнне паводле „Малога слоўніка старацаркоўнаславянскіх слоў" а. д-ра А. Знаско).*



*Аўтар ля капліцы Блажэннай Ксенні ў Санкт-Пецярбургу.*



 

# ШТО З НАШАЙ КУЛЬТУРАЙ І АСВЕТАЙ

На старонках „Нівы" і іншых газет, а таксама па радыё вельмі часта ўздымаецца пытанне культуры і асветы ў нашым асяроддзі. І хаця пры гэтай нагодзе выяўляюцца розныя, нават процілеглыя пазіцыі, дык трэба сказаць, што ўсе маюць рацыю. На працягу апошніх чатырох гадоў палітычная і грамадская сітуацыя так дыяметральна памянялася, што нам усім трэба перайсці на новы спосаб мыслення, на новы стыль дзейнасці. Аднак дзеля гэтага патрэбны грошы, грошы і яшчэ раз грошы! Адкуль іх узяць? Дзе знайсці людзей, якія змогуць працаваць у змененай палітычна-грамадскай абстаноўцы? БГКТ не атрымоўвае ўжо грошай на штаты, арэнду памяшканняў і іншыя арганізацыйныя патрэбы. Цяпер можа яно спадзявацца толькі на фінансавую падтрымку канкрэтных мерапрыемстваў і то не ўсіх, а часта здараецца, што патрэбныя грошы паступаюць нетэрмінова. Іншыя беларускія арганізацыі, якія так шумна заявілі аб сваім з'яўленні, цяпер быццам бы задыхнуліся. На арэне грамадскай дзейнасці засталося адно БГКТ, якое, нягледзячы на адмоўнае стаўленне да яго іншых беларускіх арганізацый, узяло на сябе, зрэшты, згодна са статутам, абавязак весці культурную і асветную дзейнасць.

Восенню мінулага года (7 лістапада) у Галоўным праўленні БГКТ адбыўся пленум, прысвечаны падвядзенню вынікаў папярэдняга культурна-асветнага года і намячэнню плана дзейнасці на 1994 г. Да ўдзелу ў пасяджэнні было запрошана шмат людзей. Запрашэнні былі накіраваны да ўлад гарадоў і гмін, у якіх пражывае беларускае насельніцтва, да прадстаўнікоў асяродкаў культуры і асветы ў тых мясцовасцях, да членаў хораў і калектываў, якія дзейнічаюць на Беласточчыне, да аддзелаў БГКТ. На жаль, гмінныя ўправы і асяродкі культуры не праявілі большага зацікаўлення пленумам. На пасяджэнні прысутнічалі прэзідэнт горада Беластока Лех Руткоўскі, віцэ-куратар асветы Ежы Замбжыцкі, дырэктар Ваяводскага асяродка анімацыі культуры Казімеж Дэркоўскі і, калі не памыляюся, толькі адзін войт.

Справаздачу з дзейнасці ў галіне культуры ў 1993 г. зачытаў старшыня ГП БГКТ Янка Сычэўскі. Таварыства традыцыйна арганізавала дэкламатарскі конкурс для вучняў падставовых школ. Раённыя агляды, а потым фінал конкурсу ўпершыню адбыліся ў Беларускім музеі ў Гайнаўцы, а цэнтральны агляд спалучаны быў з навагоднай ёлкай, на якую былі запрошаны ўсе дзеці з Гайнаўкі, што вывучаюць беларускую мову. Чарговыя мерапрыемствы — гэта дэкламатарскі агляд-конкурс для моладзі (ліцэістаў і працоўнай) „Сцэнічнае слова", агляд „Беларуская песня'93" (раённыя элімінацыі і гала-канцэрты ў філармоніі), агляды школьных тэатральных і песенных калектываў. Трэба адзначыць, што ў справаздачным перыядзе зацікаўленне дзяцей і моладзі прапанаванымі мерапрыемствамі было большае, чым год раней. Гэта добра сведчыць аб настаўніках і арганізатарах з некаторых асяродкаў культуры.

Новымі формамі ў дзейнасці БГКТ былі міжнародная навуковая канферэнцыя „Дарога да ўзаемнасці" і міжнародны фестываль беларускай і польскай песні „Беласток — Гродна" ў Беластоку. У 1994 годзе гаспадаром гэтага фестывалю будзе Гродна.

— Трэба таксама прыгадаць фэстыны, якія праводзіліся дзякуючы аграмаднай актыўнасці шырокага актыву нашай арганізацыі і пры выдатнай дапамозе гмінных самаўрадаў, — сказаў Янка Сычэўскі. — Фэстыны адбыліся ў Свінаросах і Тыкаціне, у Дуброве-Беластоцкай і Саколцы, у Пашкоўшчыне і Гайнаўцы, у Кляшчэлях і Сямяцічах, у Нарве і Гарадку, у Вярстоку і Чыжах, а таксама Купалле ў Белавежы. Фэстын у Бельску-Падляшскім арганізаваны быў намаганнямі мясцовага аддзела БГКТ. На столькі хапіла нам сіл і сродкаў. На жаль, фэстын не адбыўся ў гміне Міхалова, паколькі ўлады гэтай гміны не праявілі ніякага зацікаўлення нашай прапановай. Карыстаючыся нагодай, дзякую ўсім арганізатарам і суарганізатарам, а асабліва членам хораў і калектываў, якія, нягледзячы на свае жыццёвыя праблемы, летнімі нядзелямі радавалі нашае беларускае асяроддзе. Трэбы падзякаваць таксама культурным установам Гродзеншчыны, якія накіравалі ў нашыя калектывы многа музычных інструктараў. Дзякуючы ім, павысіўся мастацкі ўзровень нашых калектываў.

Кошт прабывання замежных інструктараў нясуць гмінныя ўправы. У мінулым годзе адбыліся таксама два важныя мерапрыемствы: Свята беларускай песні ў Беластоку і адкрыццё святліцы ў Старым Беразове. Пры нагодзе хачу пацешыць шаноўнага Грышу Мароза, што ў гэтым годзе ў Старым Беразове фэстын адбудзецца. „Жыхары гэтай вёскі сваёй ахвярнасцю пры пабудове свайго дома культуры поўнасцю заслужылі на тое, каб наладзіць ім фэстын у першую чаргу", — пачуў я ад войта гміны Гайнаўка, спадарыні Вольгі Рыгаровіч.

З праектам плана мерапрыемстваў на 1994 г. удзельнікаў пленума пазнаёміла сакратар ГП БГКТ Валянціна Ласкевіч. З увагі на фінансавыя цяжкасці не прадбачваецца павелічэнне колькасці імпрэз, арганізаваных Таварыствам. Будуць, аднак, працягвацца тыя формы дзейнасці, што і ў 1993 годзе. Фэстыны будуць ладзіцца там, дзе будзе зацікаўленне такой формай культурнай дзейнасці з боку мясцовых улад. Напрыклад, у 1994 г. упершыню адбудзецца фэстын у гміне Крынкі, бо ёсць там такое жаданне. З дэталёвым календаром мерапрыемстваў на 1994 год можна пазнаёміцца ў сакратарыяце ГП БГКТ.

Намеснік старшыні ГП БГКТ Тамара Русачык у сваім выступленні аднеслася да пытання навучання беларускай мовы ў нашых школах. Сцвердзіла яна, што колькасць навучэнцаў, як і ўзровень навучання нікога не задавальняюць. Адзначыла яна таксама, што можа не ва ўсіх школах, але наогул зацікаўленне роднай мовай расце. На жаль, у некаторых школах беларускай мове вучаць настаўнікі без падрыхтоўкі, калі — і такія кур'ёзы здараюцца — выпускнікі кафедры беларускай філалогіі вучаць іншых прадметаў. Апрача адпаведных законаў — а такія ў нас ёсць — патрэбны сапраўдная прыхільнасць дырэктараў, сур'ёзны падыход усіх настаўнікаў і зацікаўленне саміх бацькоў. Мабыць, не ўсе ўсведамляюць сабе рост зацікаўлення беларускасцю і то не толькі ў Польшчы. Зараз адкрываюцца новыя кафедры беларускай філалогіі — і то ў такіх асяродках як Люблін, Кракаў, Жэшаў, Ольштын, Кельцы. Беларускую мову вывучаюць на курсах вайскоўцы, паліцыянты і мытнікі.

На пленуме, як заўсёды, было яшчэ многа іншых выказванняў, пытанняў і заўваг. Усе яны будуць улічаны ў бягучай працы Таварыства.

На маю думку, усе мы павінны ўсвядоміць, што БГКТ са сваімі сціплымі сродкамі не зможа поўнасцю весці і развіваць культурную дзейнасць у нашым асяроддзі. Абмяжоўваюць яе эканамічныя цяжкасці і змяншэнне актыву арганізацыі. У такой сітуацыі абавязак анімацыі беларускай культуры павінны ўзяць на сябе гмінныя і гарадскія культурныя ўстановы ў тых мясцовасцях, дзе пражывае беларускае насельніцтва. Там мы плацім падаткі і там, менавіта, у бюджэце павінны быць прадугледжаны грошы на культуру мясцовага насельніцтва. Цяпер у многіх асяродках культуры так і робіцца.

Самаўрады павінны ў сваіх планах прадбачыць сродкі на масавую культуру. Гэта ад іх залежыць, ці ў гмінным асяродку культуры будуць гучаць беларуская мова і беларускія песні і ці ў бібліятэках чытач знойдзе кніжкі, газеты і часопісы на беларускай мове. Ад бурмістраў, войтаў, дырэктараў школ і асветна-культурных устаноў павінны мы патрабаваць выканання нашых правоў. Яны не толькі гарантаваныя Канстытуцыяй Рэчыпаспалітай Польскай, але таксама дакументамі Еўрапейскай уніі і Хельсінскага камітэта. Усё гэта павінны мы перадумаць перад выбарамі ў гмінныя і гарадскія самаўрады, ды знайсці такіх прадстаўнікоў, якія змогуць паспяхова вырашыць усе складаніцы жыцця, асветы і культуры нашага беларускага насельніцтва, якія будуць дбаць аб эканамічным развіцці нашага рэгіёна.

**МІХАЛ ГОЛУБ,**
**Гайнаўка**

P. S. Пры нагодзе хачу дадаць, што ведаць беларускую мову — гэта вельмі практычная справа. З суседам — якім з'яўляецца Рэспубліка Беларусь — добра весці размовы па-беларуску і ў дыпламатыі, і ў гандлі, і ў шырокіх кантактах. Беларускую мову павінен вывучаць кожны, хто хоча адыграць важную ролю ў жыцці нашай краіны.

# Следам памяці?

Калі я даведаўся, што ў беларускай перадачы Польскага радыё ў Беластоку пачынаецца новы гістарычны цыкл „Следам памяці", падрыхтаваны нашым славутым Сакратам Яновічам, вельмі ўцешыўся. Узрадаваны я таму, што кожны чалавек, які хоча нешта ведаць, заўсёды мае недахоп гэтых ведаў, бо часам нават забывае тое, аб чым калісьці вучыўся. Але калі паслухаў першую частку цыкла, прызнаў яе вельмі суб'ектыўнай інтэрпрэтацыяй аўтара.

Аб кожным чалавеку, а тым болей аб палітычным ці грамадскім дзеячы можна гаварыць і пісаць таксама добра, як і дрэнна. Прыклад? Калі ласка. Што рабілася ў Нямеччыне, калі Гітлер прыйшоў да ўлады? Народ шумеў з радасці. А за Сталіна не клалі сваё жыццё мільёны людзей розных нацый? Клалі і яго хвалілі. Яны былі тыранамі, а і сёння маюць сваіх прыхільнікаў. Так маецца справа і з Кастусём Каліноўскім, якога кахае Сакрат. Ён нам у першай перадачы сказаў, што Кастусь Каліноўскі — беларускі патрыёт, які ненавідзеў царскіх катаў і біў іх, а ўжо прамаўчаў, як гэты „беларускі патрыёт" біў бедных, праваслаўных мужыкоў. Ці ж гэтыя мужыкі былі царскімі паліцаямі? Не, сутнасць справы, так у паводзінах К. Каліноўскага калісьці, як і ў С. Яновіча сёння, заключаецца ў чымсьці зусім іншым. Калі такія перадачы будуць слухаць маладыя людзі, якія не чыталі іншых матэрыялаў, дык адразу скажуць і далей перакажуць, што К. Каліноўскі быў проста бацькам беларускага народа. Шкодна гэта яшчэ і таму, што ідэнтычныя галасы пачалі паяўляцца і ў беларускім тэлебачанні, і ў друку. Чаму? А таму, што тамашнія „гісторыкі" нічога ў нікога на гэтую тэму не прачыталі, а проста ўчапіліся за тое, што пачулі ад нашага пісьменніка, які ад многіх гадоў, дзе б не быў, не прапусціў нагоды, каб не пахваліць „вялікага беларускага рэвалюцыянера", змагара нібыта за беларускі народ, ды не надзець яму на галаву арэол!

На мой сціплы погляд, лепш было б, каб Сакрат пайшоў не следам памяці, а следам гісторыі. Па-першае таму, што памяць нас падводзіць пад п'янага хату, а па-другое, памяці бываюць розныя і, што найважнейшае — праўдзівыя. Бо калі Яновіч у некага пазычыць мільён залатовак і дасць іх мне, дык я буду яго хваліць, а той — наракаць, што яго апшукалі. А гісторыю, дакументы трэба абавязкова прадставіць так, як ў сапраўднасці было. Хто як хто, але пісьменнік, акрамя літаратурнай фікцыі, не мае права пераіначваць фактаў. Не можа так быць, што загаловак гучыць паэтычна, але змест — фальшывы!

**ВАСІЛЬ ПЕТРУЧУК**

# ВЫБАРЫ Ў СІСІЛІ НА АЛЯСЦЫ

Невядома чаму філасофскую казку для дарослых, кінасерыю „Прыпынак Аляска", пускаюць па тэлебачанню а палове адзінаццатай ночы. На мой погляд, яна павінна дэманстравацца між 17-ай і 19-ай, каб усе, дарослыя і дзеткі, маглі яе паглядзець.

Паколькі большасць чытачоў „Нівы" ноччу праўдападобна спіць, лічу неабходным крыху пра „Прыпынак Аляска" расказаць. Згаданая кінасерыя паказвае мястэчка Сісілі недзе на Алясцы, штодзённую яго жыхароў (некалькіх соцень людзей, якія прыбылі тут з усёй Амерыкі, і тубыльцаў — індзейцаў) ды надзвычайныя падзеі. Мімаходзь аўтары гэтага фільма паказваюць мадэльны прыклад функцыянавання малой амерыканскай грамадскасці. Можна з яго даведацца, як выдаюць там мясцовую газету, як рыхтуюць мясцовую радыёперадачу, і як прымаюць чужынцаў да індзейскага племені (уручаюць дыплом падчас урачыстага сходу).

Апошняй надзвычайнай падзеяй у мястэчку былі выбары бурмістра, першыя ад звыш дваццаці гадоў. Аказваецца, грамадзяне Сісілі, раз выбраўшы бурмістрам уладальніка мясцовага бара, не лічылі патрэбным рабіць якія-небудзь перавыбары.

Усё-такі, знайшлася нарэшце асоба ахвотная таксама стаць бурмістрам, і выбары трэба было, хоцькі-няхоцькі, правесці.

Падрыхтоўка да выбараў ішла дзіўна знаёмым ходам. Старшыню выбарчай камісіі ды выбарчага камісара бяруць „з лапанкі". У функцыю камісара ўліп малады лекар, які неабачліва прызнаўся старшыні гарадской рады, што быў актывістам маладзёжнай арганізацыі рэспубліканскай партыі. Галоўным дасягненнем ягонай ячэйкі ў адным з кварталаў Нью-Йорка было „здабыццё" плана выбарчай кампаніі мясцовых дэмакратаў. Дзякуючы таму, рэспубліканцы маглі ісці следам за канкурэнцыяй, зрываць толькі што наклееныя плакаты і клеіць свае! Паколькі старшыня гарсавета аказалася фанатычнай рэспубліканкай, прымусіла яна няшчаснага актывіста стаць выбарчым камісарам. Пэўна ж, дзеля раўнавагі, бо старшынёй выбарчай камісіі назначылі маладую дэмакратку — пілота верталёта.

Гэта яшчэ байкі! Галоўным заняткам арганізатараў выбараў было абвешванне выбарчага памяшкання нацыянальнымі сцягамі і партрэтамі Правадыроў Народа. Галоўнай праблемай стаў колер стужак, якімі ўпрыгожвалі трыбуну. Усё быццам бы ў нас у час апагея развітага сацыялізму.

Паводле гэтага можна меркаваць, што дэмакратыя, няважна якая: звычайная, народная, сацыялістычная ці, нарэшце, нацыянальная, усюды праяўляецца ў аднолькавых вонкавых формах.

Таму няма дзіва, што амерыканцы, гледзячы па тэлебачанні перадачы пра выбары, парламенты і галасаванні ва Усходняй Еўропе, думаюць, што тут усё нармальна. Ніколі ім нашай рэчаіснасці не зразумець!

**АЛЕГ ЛАТЫШОНАК**

ЯКІЯ МЫ ЛЮДЗІ

# БАЛВАН

На трэці дзень новага года неспадзявана выпаў снег. За апошнія дзесяцігоддзі людзі ўжо прывыклі да нашых бясснежных, мокра-панурых зім, дык цешыліся цяпер, як дзеці. Вялізныя сняжынкі кружыліся і кружыліся ў паветры, узнімаючы навокал радасны настрой, а зямля няспешна апраналася ў белае, быццам тая маладуха на вяселле ў карнавале.

Толькі негры і арабы, што прыехалі вучыцца да нас з цёплых краёў, не цешыліся разам з усімі. Утуліўшы галовы без шапак у настаўленыя высока каўняры, яны на снег, які ўбачылі толькі тут, ды і на паўсюдную радасць людзей спаглядалі даволі скептычна. Сёння цешацца, казалі, а праз пару дзён будуць смаркацца і кашляць, бегаць па аптэках, а можа злягуць нават у ложак... Няма лепш, як у нас: заўсёды цёпла і прыемна!

Выразна было відаць, што гэтыя аранжарэйныя людцы нас не разумелі, ды, бадай, зразумець і не маглі.

Дзеці высыпалі на двор, качаліся ў снезе, біліся снежкамі, вішчэлі, каталі вялізныя снегавыя шары. Будзе балван, падумала я. Снег быў макраваты і вельмі надаваўся дзеля гэтага.

* * *

Раніцай я выглянула ў вакно. Зірнула і вачам не паверыла. На свежым, яшчэ не растопленым снезе стаяў снегавы балван цудоўнай прыгажосці. Балван быў нетыповы: не складаўся з трох камлёў, не было на галаве старой каструлі, а ў руках веніка. Нават чырвонай морквіны замест носа не было відаць. Балван быў каржакаваты, меў толькі тулава і галаву, ды зложаныя спераду рукі. На звычайным месцы ўваткнуты былі гузікі з вугалю, з невялікіх вугельчыкаў былі зроблены нос, рот і вочы. Але вось шапка, якая шапка! Зleплена яна была са снегу ў нейкім мангольскім стылі, такі шырокі конус з быццам футраным абадком. З-пад белай-белай шапкі выглядалі касаватыя, хітрыя вочкі. Такіх балваноў я дагэтуль бачыла толькі па тэлебачанні, калі паказвалі конкурсы з японскага горада Сапора.

Цяжка было адарваць вочы ад гэтага шчырага твора маленькіх рук. Я выцягнула з шуфляды фотаапарат і намерылася выйсці ды зрабіць здымак. Быццам прадчуваючы нешта нядобрае, я зірнула яшчэ раз у вакно і... замерла. Да снегавога балвана, асцярожна разглядаючыся па баках, коцімі крокамі кіравалася дзесяцігадовая дзяўчынка Сільвія, вядомая на ўвесь панадворак разбойніца. У абедзвюх руках трымала падрыхтаваныя снежкі. „Будзе лупіць балвана!" — прашыла мяне няўмольная рэчаіснасць. Дзяўчынка адвярнулася і правяла сваім позіркам па вокнах нашага блёка. Ад нізу — да верху. Убачыла мяне і запаволіла крокі. А я стаяла ў шырокім акне, быццам груддзю бароняччы гэтага снегавога чалавечка, і мела яшчэ надзею, што мо гэтаму дзіцяці не чужое ўсё ж пачуццё прыгажосці.

Дзяўчынка кружыла вакол балвана, штораз спаглядаючы на мяне. „Не, усё ж не адважыцца разваліць такога прыгажуна на маіх вачах!" — супакоіла я сябе і пабегла апранацца. Мінула не больш трох хвілін, але я на ўсякі выпадак яшчэ раз глянула ў вакно... Толькі тулава снегавога балвана, быццам нейкі папрок, сумна тырчэла на панадворку. Прытоптаная галава ў экзатычным капелюшы валялася побач. Былі абдзерты гузікі, нават рукі былі адарваныя.

За некалькі хвілін з вясёлага і адмысловага балвана, які быў зроблены з такім піетызмам дзецьмі, засталася адно панурая, нічога не напамінаючая глыба снегу. „Нядоўга ж давялося змагацца Сільві з гэтым далікатным, безабаронным чалавечкам — з іншымі бывае цяжэй, — падумала я са смуткам. — Адны будавалі — другія знішчылі. Зусім так, як у жыцці..." Незразумелы сум па гэтым мімалётным стварэнні мучыў мяне цэлы дзень.

* * *

Цяжка сказаць, ці пахваліла б Сільвію бабуля, калі б даведалася, што ўнучка, выхаванка яе, разваліла такога прыгожага балвана. Але напэўна за гэта не накрычала б. Чаго?! Былі ж горшыя ворагі. Вось хаця б Сільвін бацька. Калі дачка бабулі ў яго закахалася, абяцаў, што жонку і дзяцей кіне ды з ёю ажэніцца, а тут во ўжо і іхняя дзяўчынка нарадзілася, і імя ёй далі адмысловае — Сільвія, а ён — ні гу-гу. Як жыў з жонкаю і дзецьмі, так і жыў далей. Дзяўчынку трэба было выхоўваць, а маці ж ніколі не мела на гэта часу. Кінуў яе той чалавек, бо надта ж ужо настойвала, каб ад сям'і адышоў, а яна распілася, на ніякай працы не ўжылася. Бацькі шкадавалі дзяўчынку, дык узялі яе да сябе на выхаванне, і, пэўна, было ёй там лепш, чым у маці, якая бадзялася па чужых кутках і жыла штораз з іншым мужчынам.

Сёння ўжо што! Сільвінка вялікая і на чалавека, лічыла бабуля, вырасла. Маці наведвала яе рэдка, найчасцей тады, калі трэба была пазычыць грошы ад бацькоў на гарэлку. Ды, зрэшты, і часу занадта не мела: недзе там, у чужой летняй кухні, было ўжо двое наступных дзетак, кожнае ад іншага, ды і мужчына нейкі заўсёды блытаўся каля Сільвінай маці. Прыгожая! Мусіла, бедная, сама выхоўваць тых дзетак, бо больш нікога бацькі да сябе браць не збіраліся. Старыя ўжо!

Каб неяк адрабіць даччыну негацыю пэўных канонаў, бабуля дэманстравала перад усімі сваю прывязанасць да касцёла, водзячы туды і дзяўчынку рэгулярна. Збоку аднак гэты цэлы іх парад выглядаў цалкам антырэлігійна, бо Бога трэба было б любіць штодзень, а не толькі ў касцёле... Вось жа і ў Біблії напісана, што ўсе людзі — браты, а Сільвія ў жывыя вочы насміхалася з „кацапаў" ды „жыдоў", намаўляла дзяцей, каб зусім не гулялі з „яговамі". Тыя „іншыя" дзеці стараліся сыходзіць дзяўчынцы з дарогі. Яна тады адчувала сябе лепшай, была наверсе. А хто ёй тлумачыў тое-сёе? Ніхто іншы, як бабуля. Дзед на пенсіі гуляў у карты і працягваў піць гарэлку.

Так што „ворагаў" у іх было шмат, і нянавісць да іншых бабуля заўсёды трактавала як неадлучны атрыбут ейнага патрыятызму, прывіваючы гэты прынцып і сваёй унучцы.

А ці ж іхняя „лепшасць" не выплывала якраз з пачуцця крыўды і горшасці? Нямы, безабаронны балван стаў дасканалай мэтай агрэсіі дзяўчынкі, якую не кахала ўласная маці, але быў ён толькі адным маленькім звяном у доўгім ланцугу іх святой нянавісці. Бабулінай і ўнуччынай.

АДА ЧАЧУГА

## ДВУХЛІТАРНАЯ КРЫЖАВАНКА

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 2 | | 3 | | 4 |
| | ■ | 5 | 6 | | ■ | |
| 7 | 8 | ■ | | ■ | 9 | |
| | 10 | | | | | |
| 11 | | ■ | | ■ | 12 | 13 |
| | ■ | 14 | | 15 | ■ | |
| 16 | | | | 17 | | |

**Гарызантальна:** 1. спосаб, прыём, 3. дакумент, дзе сабраны звесткі пра што-небудзь, 5. штучнае валакно, 7. какаінавы куст, 9. стыль плавання, 10. корм высокай пажыўнасці, 11. драпежная птушка, сімвал мудрасці, 12. брус на дне судна або нямецкі порт, 14. марская рыба, 16. дзікая каза, 17. замежныя грошы.

**Вертыкальна:** 1. пажыўная белая вадкасць, 2. вадаём, 3. на званіцы, 4. касцюк, 6. кандыдат, 8. пажыўны напітак, 9. расліны з рознакаляровымі кветкамі (мн. л.), 11. чорна-белая птушка, 13. палёгка, 14. мера даўжыні, розная ў розных краінах (звыш 1,5 км), 15. паўднёвае пладовае дрэва.

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 51 н-ра:**

**Гарызантальна:** сатыра, трызна, капрон, капа, рада, прапаведзь, блок, баба, мякіна, атрута, Гавана.

**Вертыкальна:** сарока, рака, трон, нагода, прыгаворкі, папрок, разьба, блёкат, барана, мэта, нага.

Кніжную ўзнагароду атрымоўвае **Аляксандр Дабчынскі з Беластока.**



*З МАНАСТЫРСКАЙ КУХНІ*

**ТУШАНЫ ШЧУПАК**

Прадукты:

*1 шчупак,*
*1 шклянка белага сухога віна,*
*1—2 цыбуліны,*
*8—10 пячурыц,*
*некалькі гваздзік,*
*3—4 лыжкі алею,*
*1 лыжка мукі,*
*1 салоны селядзец,*
*соль, перац, лаўровы лісток,*
*англійскае зелле (пахучы перац).*

Рыбу пачысціць, парэзаць на кавалкі. У каструльцы стушыць на алеі цыбулю і пячурыцы. Пасыпаць іх мукою, уліць віно, дадаць прыправы. Закіпяціць. У соус палажыць рыбу. Тушыць пад покрыўкай, на малым агні, даліваючы, калі трэба, вады. Канчаючы варыць, дадаць кавалкі салонага селядца. Перамяшаць. Пералажыць на талерку, навокал грэнкі.

ГАСПАДЫНЯ

# ІГНАТ

— Будзеш ты старым кавалерам! — наваражыла Ігнату цыганка.

— Ой, вялікая справа! — засмяяўся той. — Бабу на карак пасадзіць, ого! То не ці, то дзяцей пільнуй, то накупі ёй усяго, а так — вольнаму воля!

Было яму трыццаць, як пазнаёміўся з Зінай, дзесяць гадоў маладзейшай за яго. Працавала Зіна кухаркай.

Пабраліся шлюбам. Пражылі разам два месяцы, як Зіна перацвіла. Не памаглі лекары, ні шаптухі, ні экстрасенсы з Усходу.

— Не будзе ў нас дзяцей, — засумавала Зіна.

— Без дзяцей не дом, а магіла! — узлаваўся Ігнат. — Будзем разводзіцца, так будзе лепей.

— Што ты робіш, сынок! — заламала рукі Ігнатава маці. — Ты ж калісьці пра дзяцей і не думаў, а тут такую трагедыю робіш?..

Ігнат лаяўся, нікога не хацеў слухаць. Развялі іх хутка. Ігнат кінуўся, каб забыцца, у забаву. Хадзіў у рэстараны, сустракаўся з дзяўчатамі.

Аднойчы позна вяртаўся п'яны дадому. Прычапіліся хуліганы, патрабавалі грошай. Ігнат адмовіўся і атрымаў удар жалезнай паліцай па галаве. Знайшлі яго на другі дзень.

Зіна прыносіць кветкі на яго магілку не раз у год, хаця ўжо мінула дзесяць, як Ігнат з ёю развёўся.

АЎРОРА

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Дарагі Астроне! Адпачыў ты крыху ад маіх сноў. Не пісала, бо пасля смерці майго мужа мне ўжо нічога цікавага не снілася. А тут вось які дзіўны сон. Прысніўся мне пясняр Вадэцкі! А было так: я, мая знаёмая і нейкі мужчына стаім каля калодзежа. Знаёмая кажа: „Хтосьці ўтапіўся ў калодзежы. Трэба яго пахаваць". Мужчына ўскочыў у калодзеж. Пачаў выкідаць адтуль нейкія мокрыя ходнікі і кажа нам, што гэта вісельнік нейкі ў калодзежы, але ён яго не бачыць. Мужчына вылез наверх і палезла ў калодзеж знаёмая жанчына. Выцягнула гэтага чалавека недзе з дна калодзежа і стаяць у калодзежы. Ён ужо жывы, з тоўстай вяроўкай на шыі, распрануты да паловы, толькі ў нагавіцах. Звяртаецца да жанчыны і кажа: „Пачала, дык канчай!" Мужчына са страху ўцёк. Я таксама хачу ўцякаць, але не магу варухнуцца з месца. Спадзяюся, аднак, што пакуль яны вылезуць з калодзежа наверх, я таксама змагу ўцячы.

Кацярына

Дарагая Кацярына! Ізноў не магу цябе пацешыць.

Тое, што вы ўтраіх стаялі каля калодзежа, магло б абазначаць поспех у тваёй гаспадарцы, калі б не тое, што ў ім вы заўважылі павешанага чалавека са шнуркам на шыі. А гэта ўжо абазначае для цябе перанясенне крыўды і абразы. Думаю, што справа будзе датычыць нейкіх гаспадарчых спраў. Аб гэтым сведчыць не толькі тое, што вы стаялі ля калодзежа, але і тая тоўстая вяроўка на шыі павешанага, якая можа абазначаць заблытанасць у справах, задоўжанасць і няўдачу. А яшчэ ж той мужчына быў голы да паловы. Можа быць нейкая страта.

АСТРОН



**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Ян Мордань, Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1994 r. upływa 20 lutego 1994 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał wynosi 52 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką od 1.01.1994 r. wynosi 7000 zł., a kwartalnie - 91000 zł. (jeżeli nie zdrożeją koszty wysyłki pocztą). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

*Іранічныя радкі*

*ВІНЦУК АСЬЦЮК*

## КАЖУЦЬ...

Сёння людзі шмат што кажуць,
Нібы венікі ўсё вяжуць.
Кажуць, што і ў Пазьняка
За мяжою ёсць рука
І таму ён гэткі смелы,
Носіць бел-чырвона-белы,
Часта ўсюды выступае,
Камуністаў вельмі лае.
Кажуць, што і ў Менску сала,
Нібы снег вясной, прапала,
Бо яго на розны сьвяты
З'елі нашы дэпутаты,
А пасля яшчэ за раз
Праглынулі нафту й газ.
Праўда, гэта ім не шкодзіць,
Кожны з іх, як бочка, ходзіць.
Кажуць, нейкі абібок
Вывеў гэткі агурок,
Што яго на год хапае.
Праўда, чорт яго тут знае
Можа гэта і мана.
Кажуць, баба ёсць адна
Без трусоў і без спадніцы
Ходзіць смела па сталіцы,
А за ёю — мужыкі,
Як за свінкаю хракі.
Кажуць, што метро капаюць,
А дарогі засыпаюць.
Пад зямлёю горад будзе.
І чаго маўчаць тут людзі!?

*(працяг будзе)*






*Малюнак Ю. Рыжыкава.*

## СМЕХ У САНАТОРЫІ

Прыходзіць баба да лекара:
— Што вы робіце кожны дзень у адзінаццаць вечара?
— Іду спаць у ложак.
— Вельмі добра! А што вы робіце раней?
— Сплю перад тэлевізарам.

* * *

— І што сказаў лекар? — пытае муж жонку.
— Загадаў памянянць клімат і параіў выехаць у Альпы або Пірэнеі. Куды выбярэмся?
— Да другога лекара.

* * *

Лекарскі абход у псіхіятрычнай бальніцы. У адным з залаў лекар бачыць пацыента, які мочыць прывязаную да палкі вяроўку ў балеі поўнай вады.
— І што, многа рыбы злавілі? — пытаецца ветліва лекар.
— Ці вы шалёны, пан доктар?! У балеі?!

* * *

— Не бачу ніякай папраўы, пухліна не паменшала, — гаворыць лекар пацыенту. — Ці жонка рабіла аклады так, як я гаварыў?
— Не.
— Чаму?
— Бо я, на шчасце, нежанаты.

* * *

— Ці чулі вы, што нашага камінара збіў самаход?
— Я заўсёды гавару, што ў нашым горадзе шафёры ездзяць як вар'яты. Але каб па дахах!!!

* * *

— Бармен, хутка дайце кілішак каньяку майму сябру, бо млее!
— Каньяку няма, ёсць толькі гарэлка.
— Можа быць! — прашаптаў знямажаны.

* * *

— Не пераношу яго, ненавіджу! — гаворыць пра мужа сяброўцы сяброўка.
— Дык чаму не развядзешся?
— Не магу.
— Чаму?
— Ведаеш, штогод нам новае дзіця нараджаецца...

Сабраў
**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

# ЗДАНІ І ПАЧВАРЫ БЕЛАРУСІ

*(працяг;*
*пачатак у н-ры 40 за мінулы год)*

## ТЭХНАТРОННЫЯ ЗДАНІ

### Здань Беларускага тэлебачання

Гісторыя ўзнікнення гэтай здані, якая тым не менш разглядаецца некаторымі аўтарытэтнымі навукоўцамі як пачвара, наступная: малпуючы маскальскую моду апошніх гадоў на паказ даўжэзных тэлесерыялаў паўночна- і паўднёваамерыканскай вытворчасці, кіраўніцтва беларускага Дзяржтэлерадыёкамітэта запусціла ў эфір 666-цісерыйны фільм „Раскіданае гняздо Харпераў" пра аднаго агента ФРБ, які расследуе штосерыйныя згвалтаванні галоўнай гераіні. Калі на Расейскім тэлеканале падобныя паказы садзейнічаюць адно амерыканізацыі гледачоў, то для Беларусі гэта нясе пагрозу і русіфікацыі: агенты ФРБ, тэхаскія мільянеры і нават каляровыя меншасці, дзякуючы непісьменным дыктарам размаўляюць у такіх фільмах на дыялекце маскоўскіх вакзалаў ды растоўскіх піўных.

Серыял настолькі захапіў большасць гледачоў, што яны пачалі ўспрымаць галоўных герояў, як рэальных асоб. І калі паказ фільма скончыўся, аматарам „Раскіданага гнязда Харпераў" ніяк не хацелася мірыцца са знікненнем з асабістага жыцця такіх дарагіх ім людзей: агентаў ФРБ, скарумпаваных паліцыянтаў, прастытутак, маньякаў і садыстаў. І ледзь толькі ўключыўшы тэлевізар, на экране якога замест улюбёных герояў ансамбль паволжскіх балалаечнікаў і баяністаў выконваў польку-трасуху, яны тужліва прыгадвалі сцэны адмысловых згвалтаванняў.

Такія магутныя псіхалагічныя імпульсы некалькіх мільёнаў чалавек не маглі застацца безвыніковымі. Яны матэрыялізавалі сярэднеарыфметычную істоту, якая ўвасабіла ў сабе ўсе адмоўныя рысы галоўных і другасных герояў серыяла: мужчын, жанчын, жывёл і такім чынам паўстала здань Беларускага тэлебачання. Яна, карыстаючыся сеткай рэтранслятараў і кабеляў, пранікала ў любую кватэру, дзе ёсць тэлевізар і бессапакарана рабіла свае кінематаграфічныя злачынствы: гвалціла, забівала, здзекавалася, прымушаючы пераказваць змест усіх 666-ці серыяў. Гэтая жахлівая навала прыняла маштабы нацыянальнае катастрофы. Ад яе пацярпела кожная чацвёртая беларуская сям'я. Праваахоўныя органы не бачылі іншага выйсця, як цалкам згарнуць тэлевізійнае вяшчанне. Але звышсакрэтная лабараторыя, дзе з апошніх часоў працуюць аўтары гэтага навуковага доследу (па цалкам зразумелых прычынах назва лабараторыі пададзена быць не можа), прапанавалі арыгінальны спосаб знішчэння здані. На правядзенне аперацыі ім былі дадзены тыдзень часу і надзвычайныя паўнамоцтвы. Наведаўшы фан-клуб аматараў серыяла „Раскіданае гняздо Харпераў", мы прыглядзелі самую прывабную і сексапільную дзяўчыну, якую, паабяцаўшы паказаць 667-ую серыю, звезлі на студыю. Пасадзіўшы дзеўку-нажыўку перад тэлевізарам, мы схаваліся і сталі чакаць. Неўзабаве з экрана вылезла амерыкана-расейская здань, якая кінулася на дзеўку. Покуль здань займалася сваёй справай, мы падключылі тэлевізар да відэа і паставілі на запіс. Гнюсная істота, заўважыўшы, што знаходзіцца ў студыі не сам-насам са сваёй ахвярай, кінулася на нас, у выніку чаго Марцін Юр, які забыўшыся на інструкцыі, не апрануў гумовыя пальчаткі, атрымаў часовае памутненне розуму. Але пасля непрацяглага, але ўпартага змагання здань вырашыла сысці тым жа шляхам, што і з'явілася — праз тэлевізійны экран. Ледзь толькі яна знікла за шклом кінескопа, яна тут жа ж запісалася на відэастужку. Францішак Хлус, карыстаючыся нагодай, неадкладна выцер касету. З тых часоў здань знікла канчаткова — прынамсі, да паказу наступнага серыяла.

Гэтае здарэнне пераканаўча сведчыць, што Беларусь мусіць неадкладна выпрацоўваць сваю ўласную нацыянальную канцэпцыю палітыкі тэлевізійнага вяшчання, інакш яна рызыкуе захлынуцца ў бруднай плыні рускамоўнай амерыканскай навалы.

*(працяг будзе)*

Падрыхтавалі
**ФРАНЦІШАК ХЛУС**
**і МАРЦІН ЮР**

## СЕНТЭНЦЫІ

Застаўшыся адзін на полі бою і трус можа быць героем.

* * *

Далоні атуляць слязу, але не боль.

* * *

Яшма засланяе форму, але не змест.

* * *

Кропля думкі важыць жамчужыну.

* * *

Лянівай курыцы певень яйкі зносіць.

**БАРЫС РУСКО**




Мілае Сэрцайка! Мае сяброўкі захапляюцца, калі трапяць ім у рукі нейкія парнаграфічныя здымкі, або часамі ўдаецца ім паглядзець порна-фільм. Часта нават на ўроках перадаюць адна другой не зусім „прызваітыя" фоткі, смех тады агортвае палавіну класа, ніхто не слухае настаўніка, а цэнтр увагі вучняў пераносіцца на тое, што аглядаюць яны пад партай.

Сэрцайка! Мне 16 гадоў, усе кажуць, што ў маім узросце зацікаўленне такімі справамі зусім нармальнае, дык адкажы мне, калі ласка, можа я ненармальная? Ну, дальбог, не адчуваю ніякай прыемнасці ў аглядванні ні парнаграфічных здымкаў, ні фільмаў. Наадварот, яны мяне дражняць.

Няраз з-за гэтага нават з сяброўкамі пасваруся. Збярэмся кампаніяй, пойдзем у суботу на каву, а тады што рабіць? Вось хтосьці і абвесціць, што можна ў яго паглядзець „нешта цікавае", бо бацькоў і малодшага брата сёння вечарам не будзе. Ну, і, вядома, большасць з нас рвецца аглядаць тое „цікавае", а мне гэта зусім нецікава, бо гэты час я лічу страчаным.

Была б я табе зманіла, калі б сказала, што я такіх фільмаў ці здымкаў ніколі не бачыла. Калісьці нават вельмі хацелася мне штосьці такое паглядзець. Але... пакуль не паглядзела. Пераканалася, што часам дык такое штосьці не толькі не робіць ніякага ўражання, а наадварот, выклікае пачуццё агіды. Ва ўсякім выпадку заўсёды застаецца нейкае непрыемнае адчуванне, быццам бы гэта я брала ўдзел у нечым паскудным, пагнеціжаваным. У нечым такім, што дзеецца механічна, без пачуцця.

І яшчэ, дарагое Сэрцайка, была б я зманіла табе, калі б сказала, што мне наогул не падабаюцца эратычныя сцэны ў фільмах. Ого-го-го! Мама нават мяне няраз папракае, што посуд памыць я магу забыцца, але ўсе так званыя „моманты" з фільмаў я памятаю з ідэальнай дакладнасцю.

І сапраўды яна мае рацыю. Такія моманты ў эратычных і іншых фільмах, дзе секс паказваецца памяркоўна і культурна, мне вельмі падабаюцца. Больш таго, я б сказала, што яны мяне больш узбуджаюць эратычна, чым парнаграфічныя. Мне падабаецца, што ў іх эратызм лагічна выплывае з пачуцця, якім адорвае адзін чалавек другога.

Калі бачыш, што людзі кахаюць адзін аднаго, а іх палавыя зносіны з'яўляюцца як бы завяршэннем іх кахання, дык чалавеку на сэрцы робіцца цёпла.

А ў гэтай парнаграфіі я бачу толькі штучную ігру: сустракаюцца, цалуюцца, распранаюцца і ўжо паказваюць што трэба і не трэба. Няма ніякай таямнічасці, усё як на далоні.

Сэрцайка! Як ты думаеш, ці не вырасце з мяне нейкая імпатэнтка, якая ў жыцці не будзе мець задавальнення з сексу?

Магдалена

Магдалена, даражэнькая, не хвалюйся! Усё будзе ў парадку. Ты вельмі правільна рэагуеш на справы сексу, і гэта ў тваю карысць. Нармальнаму чалавеку, тым больш, калі ён у тваім узросце, непатрэбныя дадатковыя стымулы для эратычнага ўзбуджэння. Ты добра падмеціла, што ў парнаграфічных фільмах робіцца без пачуцця тое, што павінна рабіцца з кахання. Там жа ўсё паказана, як на далоні, няма ні крышынкі таямнічасці. А павінна быць усё раскрыта не да канца — нешта мае быць не дoff, не дарысавана. Вось таму цябе і не цягне да парнаграфіі. Маю надзею, што не толькі цябе. Вам жа трэба думаць пра вучобу, праз пару гадоў — матуральныя экзамены. А як жа іх здасі, калі ў кішэні будуць... парнаграфічныя здымкі!

**СЭРЦАЙКА**